PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 39 (2159) Год XLII Беласток 28 верасня 1997 г. Цана 1 зл.



*Каго тут выбраць?* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## З памяркоўным зацікаўленнем

Перадвыбарчыя настроі ў Тыневічах-Вялікіх былі далёкія ад энтузіязму. „А ну іх з выбарамі, — казалі гаспадары. — Галасуем, галасуем і нічога не мяняецца". На выбарчым участку не было тлумна.

Маладая пара з дзіцячай каляскай праходзіць міма і нават не азіраецца ў той бок.

— Не ідзеце галасаваць?

— Не, не, гэта не для нас, — махаюць згодна галовамі і рукамі.

Жанчыны на лаўцы ў пасляабедні час разважаюць:

— Яшчэ той Тапалянскі пхаецца. Мне ён і так надаеў, як быў войтам і яго выбіраць напэўна не буду.

— Мае сын і нявестка казалі, што пойдуць галасаваць за Вапу. І ўнук прыносіў яго лістоўкі дахаты.

— Але як жа яго там знайсці. Я сляпая то і зусім не пайду, бо яшчэ не таго што трэба зазначу.

— А то ў камісіі не падкажуць? Раней заўсёды памагалі.

У камісіі, аднак, упершыню няма нікога з вёскі. Ёсць адна працаўніца гміны, якая жыве ў суседняй вёсцы і яшчэ старшыня камісіі знаёмы. Астатнія — нетутэйшыя. Кажуць, што з „Салідарнасці" з Нарвы.

Новая была таксама камісія ў Чыжах — вядомых на ўсю Польшчу тым, што Аляксандр Кваснеўскі на прэзідэнцкіх выбарах атрымаў там найлепшы выбарчы рэзультат.

— Я прасіла, каб паказалі мне, дзе праваслаўныя, — кажа бабулька, — а то ж не паказалі. Сказалі: *proszę szukać*.

Старэйшыя выбаршчыкі ў Чыжах наогул мелі клопат, бо бацюшка казаў прагаласаваць за нумар пятнаццаты. Але не ўсе зразумелі, што гэта нумар спіска і шукалі пятнаццатага нумара каля прозвішчаў на розных спісках.

**Мікола Ваўранюк**

## Выбіралі сваіх

У дзень парламенцкіх выбараў падаўся я ў некаторыя нашы вёскі паглядзець за ходам галасавання. У Плёсках Бельскай гміны выбарчы пункт размясціўся ў вясковай святліцы. Апрача жыхароў Плёсак галасавалі тут яшчэ жыхары Дэнісак і Кнаразоў. На выбарчым пункце, так і ў вёсцы, амаль бязлюдна, толькі камісія. Прыйшлі некалькі жанчын, аддалі свае галасы, і зноў цішыня. Як і ў самой, абязлюджанай да старэчаў толькі, вёсцы. У 11 гадзін раніцы прагаласавала ўсяго нейкія 8 працэнтаў выбаршчыкаў. Аддавалі яны галасы галоўным чынам на „сваіх" — кандыдатаў ад славянскага камітэта. Па другі бок ракі Нарвы, у Заблудаўскай гміне, выбарчы пункт у Рыбалах. Перш чым зайсці на той пункт, з'ездзіў я ў Цялушкі. На вуліцы недзе каля поўдня гутарыла некалькіх мужчын. Некаторыя з іх ужо прагаласавалі, другія ж — не збіраліся зусім. Два разы прыязджаў у вёску „Жук" з рыбалаўскай RSP, каб давезці ахвотных на выбарчы пункт. Акурат пры мне вылезла з яго трое чалавек, а назад аўтамабіль паехаў пусты. Тут мне прызналіся, што галасавалі на Цімашэвіча і беларускіх кандыдатаў у Сенат. Падаўся я яшчэ ў Рыбалы, на выбарчы пункт. Галасавалі там і жыхары Канюкоў, Цялушак, Паўлаў і Давідавічаў. На выбарчым пункце было тут людней, выбаршчыкі прыходзілі ўвесь час і ў 13 гадзін прагаласавала іх больш за 30 працэнтаў. Большасць з іх аддавала свае галасы на беларускіх кандыдатаў у Сенат і на кандыдатаў у Сейм ад славянскага камітэта. Толькі ці тая невялікая зацікаўленасць нашых людзей гэтымі выбарамі хопіць „нашым" кандыдатам? Бо ж галасавала мала, а большасць абыякава асвоілася з чужым. А ў дэмакратыі вольнаму воля: „Не хочаш — не надо!"

**Аляксандр Вярбіцкі**

## Выбары ў Інтэрнэце

Змаганне за галасы выбаршчыкаў праходзіла таксама і ў электроннай рэчаіснасці — глабальнай камп'ютэрнай сетцы Інтэрнэт. Да сапраўдных выбараў вялікага дачынення гэта не мела, але адлюстравала выбарчую схільнасць карыстальнікаў камп'ютэрамі — галоўным чынам інтэлігенцыі. Сімпатыя гэтая цалкам разышлася з вынікамі выбараў у рэчаіснай рэчаіснасці.

Адным з месц у віртуальнай рэчаіснасці, дзе можна было пагуляць у галасаванне быў электронны выпуск польскай газеты „Rzeczpospolita". Агулам на апытанне рэдакцыі надышло 865 адказаў (галасоў), сярод якіх 359 (41,5%) сабрала Унія вольнасці, перамагаючы такім чынам у электронных выбарах у Сейм. Палітычныя групоўкі, на спісках якіх апынуліся кандыдаты з беларускага асяроддзя атрымалі наступныя колькасці галасоў:

— Саюз левых дэмакратаў — 76 (8,78%),

— Унія працы — 14 (1,61%),

— Акруговы спісак № 15 („Prawosławni") — 1 (0,11%).

Апрача Уніі вольнасці ў гэтай гульні ў выбары знакамітых поспехаў дабіліся перад усім правыя групоўкі — UPR, AWS і ROP.

**(ам)**

## У нумары

# Мы прачыталі

*Gdy w lutym tego roku rząd uwalniał ceny zapewniano nas, że w zależności od cen i sytuacji na światowym rynku, benzyna w kraju będzie tanieć lub drożeć. Od uwolnienia minęło już ponad pół roku i jak dotychczas paliwa tylko drożały. W sumie od momentu uwolnienia cen podrożały już o ponad 30 proc., podczas gdy dolar w tym samym czasie podrożał o 16,5 proc. Ceny paliw na świecie w tym czasie kilkakrotnie spadały i wzrastały, jednak nasze rafinerie dostrzegały wyłącznie podwyżki, ani razu nie zauważając spadków.*

*Kurier Poranny, nr 205*

Рыначны сацыялізм не абмінае таксама Польшчы. Ёсць добрыя перспектывы на пашырэнне эканамічнай дактрыны Аляксандра Рыгоравіча ў новых краінах Еўрасаюза.

* * *

*W Moskwie dojrzewają plany zamordowania Łukaszenki, który rwie się na rosyjską scenę polityczną.*

*Gazeta Wyborcza, nr 205*

Рыгоравіч ужо раз арганізаваў замах на сваю асобу падчас выбарчай кампаніі. Хаця куля пашкодзіла яго аўтамабіль, ён рашуча перамог на выбарах. Магчыма, што такі фокус дапаможа яму у дарозе на пост гаспадара Крамля.

* * *

*Nie brak opinii, że za pierestrojką w Rosji i partiami socjaldemokratycznymi w Europie Środkowo-Wschodniej ukrywa się KGB, za Solidarnością agenci CIA i Watykanu. Dziś zdaje się dominować przekonanie, że o losach świata decydują ciemne siły mafijne, grupy interesu i zdrada. Dlatego też lektura teczek osobowych, a nie roczniki statystyczne są dziś pierwszym obowiązkiem historyków. W ten sposób wybór Karola Wojtyły w 1978 r. na papieża nie jest wynikiem ewolucji Kościoła lecz — jak twierdzi David Yallop — skrytobójstwa, którego ofiarą padł Jan Paweł I, niedoszły wielki reformator, usunięty przez watykański beton.*

*Gdy niemiecki wywiad w 1916 r. przerzucał Lenina ze Szwajcarii do Rosji, planował tylko dywersję na tyłach przeciwnika, historyczny epizod, nie zaś rewolucję, która zmiotła cały przedwojenny układ sił w Europie i wywołała ponad siedemdziesięcioletnią wojnę religijną na niemal całej kuli ziemskiej.*

*Polityka, nr 36*

* * *

*Лукашенко проводит четко продуманную, целенаправленную политику вновь возрождающегося фашизма, по сей раз в виде специфической его разновидности — славянонацизма. Лукашенко своими кумирами открыто называет то Адольфа Гитлера, то Иосифа Сталина. С приходом Лукашенко к власти события в Беларуси развиваются по законам диктаторских режимов. В качестве методов работы на посту президента он избрал ложь и лицемерие, замучиванне и подкуп, периодический телешоу для поддержки вери в себя как чудотворца. Всё это развивает у диктатора самую страшную и неизлечимую болезнь — властолюбие. А властолюбие всегда сопровождается страхом потерять и нести ответственность за содеянное. Эта болезнь опасна для общества тем, что она сопровождается непрестанным поиском „врагов". Как и его кумир А. Гитлер, А. Лукашенко в качестве своего основного врага избрал парламент, другим Конституционный суд. В Беларуси в настоящее время на 10 млн. населения содержится 125 тыс. милиционеров, в то время в соседней Польше на 40 млн. населения — только 100 тыс. полицейских. В последнее время Лукашенко и его окружение приступили к созданию, по образу „гитлерюгенд" молодежных организаций, которие в народе сразу окрестили „лукомолом",* — пiша былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Сямён Шарэцкі.

*Свабода, н-р 86*

* * *

*Najbardziej oświecona część społeczeństwa polskiego jeszcze długo nie będzie pchać się do polityki, uważając to za marnotrawienie czasu, talentów i nabytej wiedzy.*

*Kurier Poranny, nr 206*

* * *

*Praca w agencji towarzyskiej nie jest ciężka fizycznie, ale jest męcząca psychicznie. — Opowiada Monika, lat 21, blondynka średniego wzrostu. Ma dwoje dzieci. — Spałam z kilkoma aktorami, politykami. Tych ostatnich opcji nie znam, ale ich twarze były znane z telewizora. Przychodzą 18-latkowie, czasem młodsi. Najstarszy pan, którego spotkałam w agencji miał 70 lat. Był ksiądz, przyszedł bez sutanny, ale z koloratką. Poszedł z koleżanką, a po numerku zaczął ją uświadamiać, że popełnia grzech śmiertelny, że on musi ją nawrócić. Policjanci płacą połowę stawki. Tę tylko dla dziewczyny. Właściciel agencji, za dyskrecję ze strony władz porządkowych, nie wymaga opłat dla siebie.*

*Przegląd Tygodniowy, nr 35*

* * *

*Kobiety wymagają od panów czegoś, czego oni absolutnie nie potrzebują — małżeństwa.*

*Przegląd Tygodniowy, nr 34*

Страшна і смешна!

# З мінулага тыдня

**Еўрапейскі саюз** увёў палітычныя і эканамічныя санкцыі ў адносінах да Беларусі. У сувязі з гэтым усе пятнаццаць дзяржаў-членаў ЕС спыняць усе палітычныя кантакты з уладамі Рэспублікі Беларусь. Толькі дыпламаты Люксембурга, Галандыі і Вялікабрытаніі (якія ўзначальваюць структуры ЕС) будуць падтрымоўваць „шкілетныя" кантакты з прадстаўнікамі беларускага ўрада, парламента і адміністрацыі прэзідэнта. Еўрасаюз ужо даўно асудзіў антыпарламенцкія дзеянні прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі**. У студзені г.г. місія ЕС распрацавала рапарт, у якім востра крытыкаваліся недэмакратычныя метады кіравання беларускіх улад. На афіцыйную просьбу Бруселя пракаментаваць рапарт Лукашэнка ўвогуле не адгукнуўся.

**Беларуская дэлегацыя** на чале з першым віцэ-прэм'ерам **Пятром Пракаповічам** удзельнічала ў VII Эканамічным форуме Польшча—Усход у Крыніцы-Гурскай. 500 палітыкаў і прадпрымальнікаў з Польшчы, Беларусі, Літвы, Казахстана, Расеі, Украіны абмяркоўвалі на ім пытанні ўмацавання глабальнага і рэгіянальнага эканамічнага супрацоўніцтва. Віцэпрэм'ер, міністр фінансаў **Марэк Бэлька** сказаў, што краіны цэнтральнай і ўсходняй Еўропы падчас рэфармавання сваіх гаспадарак павінны пакарыстацца праверанымі рынкавымі ўзорамі іншых краін, а не шукаць індывідуальных і няпэўных вырашэнняў. Затое шэф беларускай дэлегацыі выказаўся за рэфармаванне паводле „уласных метадаў". Паведаміў ён, што беларускі ўрад не намерваецца праводзіць раздзяржаўлення гаспадаркі хуткімі тэмпамі. Цяпер прыватызуюцца толькі малыя фірмы. Беларускі ўрад хоча прыцягнуць замежны капітал толькі да малога бізнесу.

**Міжнародная канферэнцыя** „Немцы і цэнтральна-ўсходняя Еўропа ў гістарыяграфіі пасля 1945 года" адбылася ў Казімежу-Дольным. Удзельнічала на ёй каля трыццаці навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Украіны, Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Польшчы і Нямеччыны. Мэтай канферэнцыі было вызначэнне, у які спосаб у паасобных краінах успрымалася прысутнасць немцаў і ў якой ступені на фармаванне такой ацэнкі ўплывалі палітычныя фактары.

**Гданьск** наведаў Дзяржаўны хор Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам прафесара **Віктара Роўды**. Гэты славуты беларускі калектыў запрошаны быў для ўдзелу ва ўрачыстасцях з нагоды 1000-годдзя Гданьска. Галоўнай музычнай падзеяй святкаванняў 14 верасня стала выкананне згодным хорам у складзе тысячы чалавек урачыстай VIII сімфоніі Густава Малера. Акрамя таго хор Роўды выступіў з сольнай праграмай на прэстыжных пляцоўках Гданьска.

**У Весагінсе** (Літва) адбылося II Свята беларускай песні. У мерапрыемстве прымалі ўдзел калектывы мастацкай самадзейнасці з розных гарадоў Літвы, Латвіі, Эстоніі, а таксама фальклорныя і танцавальныя ансамблі з Беларусі.

**У Даўгаўпілсе** (Латвія) адбыліся Дні беларускай культуры. Праводзіліся яны па ініцыятыве Таварыства беларусаў Латгальскага краю „Уздым". Мэта мерапрыемства — далейшае ўмацаванне добрасуседскіх сувязяў, у першую чаргу эканамічных і культурных. Гэтай тэме прысвечана была навукова-практычная канферэнцыя.

**Лік злачынстваў** на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства за восем сёлетніх месяцаў павялічыўся на 16% у параўнанні да аналагічнага перыяду мінулага года. Да жніўня паліцыя зарэгістравала 12 343 злачынствы. Найбольш антызаконных дзеянняў здарылася ў раёне Беластока.



# Весткі з Беларусі

**Чалавек мінулага тыдня**

Папулярная літоўская штодзённа „Рэспубліка" чалавекам мінулага (другога ў верасні — рэд.) тыдня Літвы назвала прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку, які на віленскай канферэнцыі кіраўнікоў дзяржаў цэнтральнай і ўсходняй Еўропы выклікаў найбольшую цікавасць у журналістаў. З гэтай нагоды газета прысвяціла Аляксандру Лукашэнку цэлую старонку, на якой друкуе ўсе адказы прэзідэнта Беларусі, дадзеныя журналістам у Вільні.

**Заакіянская дружба**

„Куба і Беларусь у многім падобныя. Нашы краіны выбралі свой шлях развіцця і хаця гэта не ўсім падабаецца, намі ніхто не зможа камандаваць", — такую заяву зрабіў міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі на сустрэчы з кубінскім калегам Абелем Праета ў Гаване. У праграме тыднёвага візіту міністра Сасноўскага на Кубу, які закончыўся падпісаннем пагаднення аб супрацоўніцтве, былі гутаркі з шэрагам кіраўнікоў вострава, сустрэчы з прадстаўнікамі літаратуры і мастацтва.

**Беленькі за кратамі**

15 верасня ў Менску арыштаваны быў дзеяч Беларускага народнага фронту Юрась Беленькі. Арыштаванне мае сувязь з праведзенай 27 ліпеня дэманстрацыяй з нагоды адмененага прэзідэнтам Дня незалежнасці.

**Піўное выданне**

Беларуская газета „Ячменны колас" святкуе свой дзень нараджэння. Ужо год папулярнае выданне радуе сваіх чытачоў — аматараў піва — цікавай інфармацыяй. З нагоды юбілею ў Навукова-вытворчым аб'яднанні „Хартэх" адбылася дэгустацыя прадукцыі пятнаццаці вядучых піўзаводаў рэспублікі. Такія мерапрыемствы ў рэспубліцы яшчэ не праводзіліся. Дэгустатарамі выступілі журналісты вядучых беларускіх выданняў.

**Юбілей Пінска**

900 гадоў споўнілася старажытнаму гораду Палесся — Пінску. З гэтай нагоды адкрыты быў Музей гісторыі Палесся. У праграму юбілейных святкаванняў увайшлі тэатралізаванае прадстаўленне, святочныя канцэрты з удзелам зорак эстрады, маладзёжная дыскатэка на цэнтральнай плошчы.

**Гадавіна кніжнай палаты**

15 верасня споўнілася 75 гадоў з дня стварэння Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі. Зараз архіў НКПБ складае 3,5 млн. друкаваных адзінак. Сваё месца знайшлі тут усе кнігі, брашуры, газеты і часопісы, што выпускаюцца ў Беларусі. Акрамя таго кніжная палата — гэта яшчэ рэспубліканскі статыстычны цэнтр уліку друкаванай прадукцыі, які ўносіць вялікі ўклад у развіццё дзелавых і творчых кантактаў Беларусі з іншымі краінамі свету.

**Чарговы заказнік**

Яшчэ адзін біялагічны заказнік створаны на тэрыторыі Пружанскага і Бярозаўскага раёнаў. Называецца ён Буслоўка і ахоплівае плошчу амаль 8 тысяч гектараў. Ахоўваюцца тут бабёр, высакародны алень, арлан-белахвост, бугай балотны, шэры журавель, чорны бусел і многія іншыя рэдкія віды жывёлін і птушак. Ёсць таксама нямала каштоўных раслін, таму ў заказніку забаронены суцэльныя высечкі, парушэнне глебавага покрыва, забор вады для прамысловых мэт.

**Прызыўнікі ўхіляюцца**

Толькі палова прызыўнікоў з Віцебска папоўнілі сёлета армейскія рады. Астатнія атрымалі адтэрміноўку па ўважлівых прычынах або не з'явіліся на прызыўныя ўчасткі. Апошніх аказалася сорак восем. Усім ім прыйшлі павесткі з пракуратуры. Між тым, пасля мінулага асенняга прызыву ў Віцебску пракуратура ўзбудзіла 38 крымінальных спраў па фактах спроб ухіліцца ад выканання воінскага абавязку.

**Дарожны скарб**

Багатую калекцыю старажытных сярэбраных манет знайшлі ў адным з міжнародных пазздоў супрацоўнікі брэсцкай мытні. Італьянскія, нямецкія, нарвежскія манеты XVI-XVII стагоддзяў маюць сёння не толькі мастацкую, але і гістарычную каштоўнасць. Па самых сціплых ацэнках гэты дарожны скарб цягне амаль на 90 млн. рублёў. Гаспадара манет так і знайшлі.

# Страцілі мы збыт неразумна

— У Орлі самым буйным бульбаводам быў я, — гаворыць **Мікалай Мураўскі**, 56-гадовы мясцовы жыхар *(на здымку)*. — Раней садзіў я па тры і больш гектараў і два вагоны бульбы адпраўляў на ўсход, у Савецкі Саюз. Цяпер у мяне іншая спецыялізацыя, гадую малочных кароў. Ад пачатку свайго гаспадарання, значыць ужо некалькі дзесяткаў гадоў, запісваю важнейшыя падзеі і гаспадарскія назіранні. У адзін сшытак заношу заўвагі аб вырошчванні збожжавых культур, у другі — аб жывёлагадоўлі. Напрыклад, магу вам сказаць, колькі каштаваў літр малака ў 1978 годзе.

Некалькі гадоў таму супрацоўнікі Інстытута бульбаводства з Боніна арганізавалі на маім полі даследчыя палеткі. Давалі тады дармовы насенны матэрыял і ахоўныя прэпараты ад хвароб і шкоднікаў. Кожныя палетка мела шыльдачку, а навукоўцы прыязджалі сюды наглядаць за ростам бульбяных карчоў. За ўсімі палеткамі наглядаў Кастусь Санкевіч з Бонінскага інстытута. Я запісваў свае заўвагі, а яны рабілі свае занатоўкі. Прыязджаў да мяне дацэнт з Боніна, спецыялісты па бульбаводству — айчынныя і замежныя, а нават сяляне з-пад Монек. Не раз даводзілася мне ўступаць у спрэчкі з інстытуцкімі разумнікамі і часам удавался загнаць у казіны рог нават самога дацэнта. Ураджайнасць на палетках была вялікая. Напрыклад, плён сорту „Бронка" дасягнуў ажно 600 цэнтнераў з гектара, а вага адной бульбіны даходзіла да паўтары кілаграма. Даследчыцкія палеткі дазволілі мне дакладна пераканацца, якія сарты найлепш растуць на маім полі і якія трэба прымяняць прэпараты.

Адзін сорт можна вырошчваць у адной гаспадарцы максімум пяць гадоў. Я сам насенную бульбу купляю ў Цэнтралі насеннай у Бельску-Падляшскім ужо восенню, бо не ведаю ці вясною яе дастану. У Цэнтралі ёсць свае бульбаводы, якія дастаўляюць адборнае насенне. А ўсіх сартоў бульбы ёсць каля васьмідзесяці і кожны год з'яўляюцца новыя. У гэтым годзе пасадзіў я ранні сорт „Астэр" і сярэдненранні „Ірга", але надвор'е было неадпаведнае. Дажджы напросту выпаласкалі зямлю і бульбе не было як расці, зачахла яна. Ад вірусных хвароб забяспечыў я сваю бульбу поўнасцю і таму будзе што збіраць. Але ў іншых гаспадароў, там, дзе макрэйшыя палеткі, бульбы ўвогуле няма.

Сёлета пасадзіў я толькі гектар бульбы, бо няма на яе збыту. У мінулым годзе перадаў я бясплатна 20 тон бульбы дзіцячым дамам у Белавежы і Красным і дамам грамадскай апекі ў Белавежы і Чараўках. Капаць бульбу будуць мне цяпер дапамагаць суседзі, якім дапамагаў я машынамі пры іншых палявых працах.

Мы — і сяляне, і дзяржава — праз дурноту страцілі ўсходні рынак. А гэта выкарысталі немцы. Калісьці бралі ўсю бульбу і нават войска прыязджала і вазіла мяшкі проста на граніцу. Жаўнеры смяяліся і гаварылі мне: „Panie, oni je z workami gotują". А ў мяшках з бульбай можна тады было сустрэць і каменне, і дохлых катоў. Не шанавалі людзі сваіх усходніх кліентаў. А немец — хітрая штука. Ад іх нават зубная паста высылаецца з расейскімі надпісамі. І такім чынам заваявалі ўсходні рынак. Кажуць, што немец багаты, бо разумны...

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



# Страсці вакол „Фольксвагена"

**28 жніўня г.г. адбылася XVIII сесія Гміннай рады ў Орлі. Разглядацца на ёй мелі дзве справы: інафрмацыя аб выкананні гміннага бюджэту за I паўгоддзе і ацэнка стану публічнай бяспекі ў гміне. Аднак значную частку сесіі заняла справа гміннага „Фольксвагена", які быў украдзены падчас замежнай паездкі. Гэтым разам журналістам забаронена было запісваць сесію на дыктафон.**

На сесіі прысутнічала 16 радных. Пасля фінансавай справаздачы гміннага скарбніка Аляўціны Іваноўскай радны Мікалай Валасовіч з Кашалёў запытаў, колькі даўгоў Гмінная ўправа анулявала СКРу. Войт адказаў, што ануляванняў не было. Аднак радны, які працуе ў гэтай фірме, паінфармаваў, што СКР мае 30 тысяч зл. даўгоў і ў мінулым яны часткова ануляваліся.

Другі пункт павесткі дня быў адтэрмінаваны з-за непрысутнасці камендантаў паліцыі з Орлі і Бельска-Падляшскага. Затым радныя зацвердзілі асабовы састаў гміннай камісіі па супрацьдзеянні алкагалізму, загадзя падрыхтаваны Гміннай управай. У ходзе дыскусіі радны Славамір Сахарэвіч папракаў войта ў тым, што той абмяжоўваецца выключна да выдачы дазволаў на продаж алкаголю, але не вядзе прафілактыкі сярод моладзі. Радны Мікалай Рэнгайла прапанаваў уключыць самога войта ў састаў камісіі, але ён не згадзіўся. Радныя абмежавалі колькасць пунктаў продажу алкаголю ў гміне да васьмі: чатыры дзяржаўныя і чатыры прыватныя.

Чарговыя выступленні радных датычылі ўпарадкавання парку, устанаўлення дарожных знакаў па пераходах, якімі карыстаецца школьная моладзь, прычын ліквідацыі пазаўрочных спартыўных заняткаў у школе, сацыяльнай дапамогі для маламаёмасных, рамонту і будовы дарог. Безвыніковымі аказаліся намаганні раднага Славаміра Сахарэвіча, каб урэшце адрамантаваць масток ля могільніка ў Орлі, які некалькі месяцаў таму размыла вада і які цяпер далей разбураецца пад коламі гмінных грузавікоў. Войт, як заўсёды, тлумачыўся нястачай фінансавых сродкаў.

Апошняя частка сесіі прысвечана была таямнічай пакражы гміннага аўтамабіля і ў сувязі з гэтым на войта пасыпаўся град пытанняў. Радныя патрабавалі дэталёва расказаць пра пабыўку ў Гродне, дзе быў і ўкрадзены самаход, папракалі, што аўтамабіль не быў адпаведна забяспечаны і не знаходзіўся на ахоўваемай стаянцы. Войт тлумачыўся, што пасля канцэрта калектыву „Арляне" ўсе пайшлі спаць. Пасля поўначы паведамілі іх, што машыны ўжо няма перад будынкам. Мікрааўтобус „Фольксваген" быў застрахаваны ў ПЗУ. Войт прапанаваў, каб ужо цяпер купіць новую машыну, але радны Сяргей Куна з Міклашоў сказаў рашуча: „Калі атрымаем стархавочную кампенсацыю ад ПЗУ, тады купім новы!" Радныя аднадушна прагаласавалі за гэтую прапанову. Войт і старшыня рады здзівіліся такім ходам падзей. Атрымалася так, што гміны „Фольксваген" стаіць толькі на ўліку ў дакументах, але ездзіць пакуль што няма на чым, а купіць новы радныя не даюць...

**Міхал Мінцэвіч**

# Фольк у Чаромсе

У Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе 13 верасня прайшло цікавае мерапрыемства — „II Фольакавыя сустрэчы". Перад гледачамі выступілі калектывы фальклорныя і маладзёжныя, якія свой рэпертуар абапіраюць на фальклоры, але прытым выпрацоўваюць сваю ўласную творчую манеру, уводзяць новыя элементы, цікавыя інструменты. Цяжка такія гурты называць фальклорнымі, хаця яны часта бліжэй да народнай традыцыі, чымсьці тыя, што выступаюць як фальклорныя. У Польшчы менавіта такія гурты называюць узятым з англійскай мовы тэрмінам „фолькавыя". Найлепшы прыклад гэтай плыні ў нас — „Чарамшына".

„Чарамшына" і была гаспадаром сустрэчы. Узяла яна на сябе адказную задачу разагрэць публіку і працерці шлях наступным выступоўцам. Трэба сказаць, справілася з ёю выдатна. „Чарамшына" пастаянна павышае свой музычны ўзровень, узбагачвае рэпертуар, а галасы маладых спевакоў гучаць штораз больш зладжана.

Апрача гаспадароў, на прыгожа аформленай сцэне — са стрэхай, калодзежам і сланечнікамі — выступілі госці з Польшчы і з-за мяжы: „Szybki Lopez" з Гліўцаў, які выконвае іспанскую музыку фламенка, „Садко" з Беластока — марскія шанты, „Хутір" з Гданьска і „Срэбная тэрцыя" з Роўнага (Украіна) — украінскі фальклор ды беларускі калектыў „Медуніца" з Ваўкавыска. Канцэрт цягнуўся да поўначы.

У калідоры можна было, пры нагодзе, паглядзець цікавыя здымкі з паездкі люблінскага калектыву „Аркестр св. Мікалая" па Румыніі, купіць касеты ды народныя вырабы: гафтаваныя абрусы і сурвэткі, плеценыя кошычкі, драўляныя лыжкі.

Мерапрыемства праходзіла пад патранатам Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку. І ў супрацоўніцтве з Беларускім грамадска-культурным таварыствам ды Саюзам украінцаў Падляшша.

**М. В.**

# Ці гэта не людзі?

Аб балагане на дзяржаўнай чыгунцы я пісаў неаднойчы. Сёння яшчэ прыкіну некалькі слоў да раней сказанага. Спадзяюся, што справай павінен як найхутчэй пацікавіцца галоўны дырэктар ЦДОКП у Варшаве, паколькі праблема тычыцца людзей і з'яўляецца сапраўды **важнай.**

Пасля ліквідацыі чыгуначнай лініі Белавежа—Гайнаўка—Бельск-Падляшскі пачалі курсіраваць аўтобусы. Яны належаць прыватнай фірме, якую ўзначальваюць... начальнікі Раённай чыгуначнай станцыі ў Седльцах. Аб праблемах і клопатах пасажыраў, якія карыстаюцца чыгуначнымі аўтобусамі, многа гавораць у вёсках Махнатае, Старое Беразова, Мора ці Крывятычы. Справу дасканала ведаюць начальнікі чыгуначнай станцыі ў Гайнаўцы. Неаднойчы з пастулатамі выступалі яны ў Варшаву, але дагэтуль усё ціха. Вось, што мне расказаў адзін кіраўнік поезда, які нядаўна ехаў аўтобусам з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі.

— Кашмарам для пасажыраў з'яўляецца ранні аўтобус, які ад'язджае з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі ў $6^{30}$. Ужо на першым прыпынку ў Старым Беразове запаўняецца ён да апошняга месца. На прыпынку ў Моры шафёр або возьме каго-небудзь, або зусім не спыняецца. Аб Крывятычах няма і гаворкі.

Пачаўся навучальны год у школах. Шмат моладзі даязджае ў бельскія школы. Выкупілі яны месячныя білеты. І ўявіце, даражэнькія, такую сцэну. Чакаюць вучні на прыпынку ў Моры чыгуначны аўтобус, каб даехаць у школу, а ён, набраўшы камплект пасажыраў у Беразове і Махнатым, зусім у Моры не спыняецца. І што рабіць? Чым дабірацца ў Бельск у школы? Хто верне грошы за невыкарыстаныя білеты? Многія з бацькоў ужо пагражаюць, што калі аўтобус не будзе забіраць іх дзяцей з білетамі, не prапусцяць шафёра далей ехаць у Бельск-Падляшскі. Вось, да чаго прыводзіць новы парадак і прыватызацыя на дзяржаўнай чыгунцы.

Справа не лепш маецца на лініі Гайнаўка—Белавежа. На аўтобусе, які ад'язджае ў $20^{45}$ з Гайнаўкі вяртаюцца вучні Ляснога тэхнікума пасля двухдзённага адпачынку ў хаце. Малы аўтобус, які курсіруе ў той час, не забірае ўсіх пасажыраў. Дзяжурны ў Гайнаўцы загадвае шафёру зрабіць другі курс. Кандуктар адмаўляецца, бо яму канчаецца дванаццацігадзінны час працы. Людзі вымушаны заставацца на станцыі ў Гайнаўцы або шукаць іншага транспарту.

Хто адказвае за гэты балаган? Ці вярхушка ў Варшаве лічыць, што грамадства Гайнаўшчыны ці Беласточчыны гэта не людзі? Аб якой гэта „мадэрнізацыі і рэструктурызацыі" гавораць варшаўскія начальнікі?

**Уладзімір Сідарук**

 

# Мова дзяцей і моладзі ў беларускіх сем'ях

— Калі нейкія бацькі ў нашай вёсцы вучаць размаўляць сваё дзіця толькі на польскай мове, то яно і так, сустракаючыся на вуліцы з сябрамі навучыцца гаварыць па-свойму, — заяўляе станоўчым голасам Бася.

Калі больш уважліва прыслухацца выказванням людзей у нейкай ступені звязаных з беларускай гісторыяй, мовай, ці культурай — з'яўляюцца ў думках песімізм і турбота за лёс беларусаў Беласточчыны. Спантанная актыўнасць розных арганізацый і інтэлектуальны патэнцыял нашай нацыі ўводзяць вонкавага назіральніка ў захапленне. Пры нагодзе розных выбараў, так, як і цяпер, паяўляюцца аналізы — колькі беларусаў свядомых, колькі несвядомых, а колькі людзей тутэйшых. Усё часцей паяўляюцца выказванні наконт няспынннага працэсу паланізацыі нашага насельніцтва. Несумненна, праца з дзяцьмі і моладдзю, гэта адзіны паратунак. Каб малады чалавек адчуў сябе свядомым беларусам, павінны пры гэтым папрацаваць не толькі школы ці арганізацыі, але таксама і бацькі, якія ад калыскі са сваім дзіцём.

Дыялектная беларуская мова, якой карыстаюцца маладыя нашчадкі можа быць першым крокам да свядомасці, асабліва ў вёсцы. На жаль, трэба сцвердзіць, што мода на польскую мову паяўляецца не толькі ў гарадах. Хто і што можа стрымаць тэндэнцыі вымірання дыялектнай беларускай мовы? Школа? Іншыя формы працы з моладдзю? Праца з бацькамі? Як вялікі ўплыў мае дыялектная мова на беларускую свядомасць? Адказ на гэтыя пытанні могуць даць размовы з самой моладдзю і дзяцьмі, а таксама з іх бацькамі.

Сваю размову пачаў я ў вёсцы Дубічы-Асочныя, што ў гміне Гайнаўка.

— Я ўжо добра не памятаю, як гэта было, але бацькі гаварылі, што вучылі мяне размаўляць і па-свойму, і па-польску, — распачынае гутарку са мною Бася Галёнка — сёлетняя абітурыентка Гайнаўскага беларускага ліцэя, цяпер першакурсніца расейскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. — Больш сур'ёзна сустрэлася я з польскай мовай у падставовай школе ў Новаберазове, але на перапынках ці ў вольныя хвіліны мы гаварылі на дыялекце беларускай мовы. Памятаю, што здаралася так, што калі мы стаялі на калідоры каля настаўніцкага пакоя, а побач нас праходзілі некаторыя настаўнікі (толькі некаторыя), дык звярталі нам увагу: "Dlaczego nie rozmawiacie po-polsku?" Але толькі яны адыходзілі і мы пераставалі размаўляць па-польску, — кажа Бася.

— Калісь, калі я яшчэ вучыўся ў Новаберазове, і калі мы кагосьці з пэгээра назвалі палякам, дык цэлы перапынак ганяў нас. Хіба лічыў гэта абразай, — уключаецца ў размову бацька, Пятро Галёнка.

— Мой муж, дык амаль заўсёды размаўляе па-свойму, ці ў гміне, ці ў іншым месцы, — дадае маці, Ганна Галёнка.

— А чаго ж я маю саромецца, дык мы ж беларусы, а я чуў, што там, дзе пражываюць нацыянальныя меншасці, можна звяртацца на іх мове, а ўраднікі павінны разумець, — рашуча заяўляе бацька. — Я лічу, што кожны павінен ведаць сваю мову і хто хоча, дык навучыцца, нават і тыя гарадскія, а свая мова ў нічым не перашкаджае.

— Ужо на перапынках у ліцэі з гайнаўскімі сяброўкамі я размаўляла па-польску, а з вясковымі па-беларуску. Здаралася так, што стаялі каля сябе дзве сяброўкі і я з адной размаўляла па-польску, а з другой па-свойму. У нашым класе ўсе ведалі дыялектную беларускую мову, але гайнаўскія недастаткова, каб свабодна ёй карыстацца. Бывала так, што мы дамаўляліся і ўсе размаўлялі на дыялекце, нават і гайнаўскія сяброўкі. Толькі ў ліцэі адчула я сябе свядомай беларускай, — папаўняе сваё разважанні Бася.

Больш цікавіць мяне, аднак, як размаўляюць малыя дзеці і вучні падставовай школы. Бася прапануе, каб падысці да яе сваякоў, дзе на адным панадворку спадарства Петручукоў жывуць дзве сям'і і ў іх пяцёра дзяцей у дашкольным і школьным узросце.

— Да свайго Лукаша, якому цяпер пяць годзікаў, я гаварыла па-польску і па-свойму. Па-польску таму, што ён у мяне многа хварэў, часта бываў у бальніцах, дзе трэба было ведаць польскую мову. Але цяпер, калі бегае з дзяцьмі брата Владка, дык вучыцца па-свойму, яны ж па-польску не размаўляюць між сабою (дзеці брата ў дашкольным узросце). А калі сустракаюцца з сынам Рыська, дык той размаўляе толькі па-свойму, — дэталёва тлумачыць, бачыўшы маё зацікаўленне, маці Лукаша, Аня.

Найстарэйшая сястра Лукаша, Ася, пачынае гаварыць па-польску, але маці адразу заяўляе, што яна ўмее гаварыць па-свойму. Вучыцца ў падставовай школе ў Навакорніне.

— У іншых класах менш дзяцей з пэгээра і яны размаўляюць па-свойму, а ў нашым класе многа і мы размаўляем па-польску, — кажа сама Ася.

Самая дыялектная мова не стварае яшчэ беларускай свядомасці моладзі, але гэта вялікі крок да роздуму над сваім паходжаннем, мінулым бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

*(працяг будзе)*

**Аляксей Мароз**

# „Рунь" - газета беларусаў Літвы

Вільня заўсёды была Меккай беларускага адраджэння. Апошняя хваля адраджэння таксама не абмінула сталіцы Літвы. У канцы 80-х гадоў, калі ў Беларусі „нефармалы" нелегальна карысталіся беларускай нацыянальнай сімволікай (бел-чырвона-белым сцягам і гербам Пагоня), у Вільні беларусы афіцыйна святкавалі ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі, афіцыйна адбыўся I З'езд Беларускага народнага фронту). Цяжка ўсё ж было аднавіць віленскую беларускую выдавецкую традыцыю. Да вайны ў Вільні друкавалася найбольш беларускамоўных газет і кніжак. Пасля вайны ўсё гэта заняпала разам са знішчэннем беларускага нацыянальнага руху ў Літве — каго вывезлі ў Сібір, хто ўцёк у Польшчу, ды далей на Захад, а хто ціха сядзеў, каб ратаваць сваё жыццё.

У пачатку 90-х гадоў маладыя інтэлектуалы ў Вільні (Сяргей Дубавец, Алег Мінкін і іншыя) аднавілі „Нашу Ніву". Чулася шмат закідаў у адрас газеты, што надта „пераінтэлектуалізаваная"і простыя людзі яе не чытаюць. У канцы „Наша Ніва" пераехала ў Менск. І так Вільня страціла беларускую газету. У 1994 г. выйшлі тры нумары газеты „Вільня і край". Беларуская старонка паяўлялася таксама ў літоўскай газеце „Lietuvos Ritas", рускамоўнай „Эхо Литвы", польскамоўным „Kurierze Wileńskim".

І раптам паявілася новая газета „Рунь", першы нумар якой быў прымеркаваны да гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, 25 сакавіка гэтага года. Выйшла яна „з мэтай актывізаваць культурнае жыццё беларусаў Літвы", а „сябры Таварыства беларускай культуры за свой кошт і самаахвярную працаю выпускаюць першы нумар газеты «Рунь»". Звяртаючыся да суайчыннікаў, старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве, Хведар Нюнька, пажадаў, „каб беларуская газета „Рунь" стала для Вас сябрам і асветнікам падзей сённяшняга дня і багатай спадчыны нашага мінулага". Крыху мяне ўразіў тэрмін „беларуская дыяспара" ў Літве. Заўсёды мне здавалася, і так яно сапраўды ёсць, што беларусы ў Літве ў большасці жывуць на сваіх этнічных землях.

Вельмі трапным здаецца загаловак „Рунь", з выкарыстаннем бел-чырвона-белага сцяга ў літары „н". Пры тым загаловак мае і гістарычнае значэнне. Штомесячны ілюстраваны літаратурна-мастацкі часопіс пад такім загалоўкам на беларускай мове выходзіў у 1920 г. у Менску, пад рэдакцыяй Івана Луцэвіча (Янкі Купалы). „Рунь" — гэта таксама загаловак першага зборніка апавяданняў Максіма Гарэцкага, выдадзенага Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні ў 1914 г. у друкарні Марціна Кухты. Пад такім загалоўкам вучні Віленскай беларускай гімназіі ў 1923 г. выдавалі сваю газетку.

Цяперашняя „Рунь" — гэта беларуская штомесячная газета. Яе заснавальнік і выдавец — Таварыства беларускай культуры ў Літве, рэдактар — Тацяна Шмідт. Рэдакцыя знаходзіцца на вуліцы Жыгімонта 12—3.

Можна ў ёй прачытаць, што чуваць у беларусаў Літвы, а паведамляе пра гэта хроніка „Люстрадзён". Газета (выйшла 5 нумароў) прасякнута беларускай нацыянальнай ідэяй, успамінае гісторыю беларускага руху (н-р 1, 4). Ёсць біяграфічныя матэрыялы пра дзеячаў беларускага руху ў Вільні: Лявона Луцкевіча (нядаўна памёршага), Антона Антановіча.

У нумары 4 пачалі друкаваць успаміны Надзеі Шнаркевіч пра Таварыства беларускай школы ў Вільні. Цікавыя таксама разважанні пра беларускую мову Валера Чэкмана, Алега Аблажэя, Лявона Луцкевіча, Людвікі Вітушковай. Добра, што такі абмен думкамі фіксуецца ў друку. Праз пару гадоў будзе гэта гісторыя не толькі думкі, але наогул беларускага руху ў Літве.

Газета падае таксама інфармацыі пра чарговыя мерапрыемствы, адрасы беларускіх арганізацый у Літве. З яе можна даведацца калі транслююцца беларускамоўныя перадачы па літоўскім радыё і тэлебачанні, радыё „Свабода", пра прыём у беларускую школу імя Ф. Скарыны і дзіцячы садзік. Пры нагодзе вядзецца таксама дзіцячы куточак з малюнкамі Алега Аблажэя.

Газета, паколькі выдаецца дзякуючы грамадскім ахвяраванням, публікуе іх спісак. „Рунь" можна купіць у рэдакцыі пры вуліцы Жыгімонта ў Вільні, у бібліятэцы Сярэдняй школы імя Ф. Скарыны, у кіёску „Алгуда" на праспекце Гедыміна. Можна таксама падпісацца, пералічыўшы 5—10 USD на рахунак № 9121 LKB „Hermis" b/k 260101730.

Першыя два нумары выдадзены тысячным тыражом, наступныя па 500 асобнікаў. Думаю, што беларусам у Літве хопіць энтузіязму, каб газета гэта жыла доўгім жыццём, ды не толькі ў Літве, але і там, дзе пражываюць беларусы ў свеце. Трэба нам як мага больш ведаць пра сябе і падтрымоўваць такія ініцыятывы, дзеля захавання беларускай прысутнасці для гісторыі і для будучыні.

**Лена Глагоўская**

PS. Добра было б толькі, каб рэдакцыя „Руні" пры месяцы газеты пазначала год выдання; гэта ж праз пару гадоў будзе дэзарыентаваць зацікаўленых.

# Нашы карані

**CVIII. Утоплены праменьчык**

На Божым свеце нават пасля найдаўжэйшай ночы настае світанак. Таксама і на беспрасветным шляху Праваслаўнае Царквы ў Рэчы Паспалітай пасля 1596 года, па амаль 40 гадах пакут і праследаванняў раптам заяснеў праменьчык надзеі на паляпшэнне яе гаротнага становішча.

У 1632 годзе памёр галоўны насаджальнік уніі і заядлы душыцель Праваслаўя кароль Зыгмунт III Ваза (у яго гонар у Варшаве, на Замкавым пляцы ўзвышаецца славутая „Колюмна Зыгмунта"). Пра польскі трон стараўся яго сын Уладзіслаў IV. Паводле тадышніх правіл, кандыдат на караля мог быць каранаваны, калі пад прысягай абавязаўся выконваць усе тыя патрабаванні, якія яму прадставіць „шляхоцкі народ", каталіцкая іерархія, прадстаўнікі мяшчанства. Да такой нагоды старанна падрыхтаваліся праваслаўныя, а віленскае брацтва нават выдала кнігу „Сінопсіс", у якой былі змешчаны ўсе адабраныя праваслаўным правы і прывілеі. У выніку настойлівасці праваслаўных дэпутатаў і дзякуючы абставінам (тады маскоўскія войскі штурмавалі Смаленск, пагрозліва паводзілі сябе казакі на Украіне) кароль Уладзіслаў IV пайшоў на ўступкі. Наперакор пратэстам шматлікіх уніятаў і езуітаў кароль афіцыяльна прызнаў правадзейнай адроджаную патрыярхам Феафанам праваслаўную іерархію з нядаўна выбраным мітрапалітам Пятром Магілам, дзейнасць чатырох праваслаўных епархій, загадаў уніятам вярнуць праваслаўным некалькі манастыроў і цэркваў, зацвердзіў акт, гарантуючы свабоду дзейнасці Праваслаўнай Царкве і ўрачыста прысягнуў ахоўваць свабоду праваслаўнай веры. Сейм у 1635 г. прыняў „канстытуцыю", згодна якой Рэч Паспалітая абавязалася ахоўваць правы праваслаўных сваіх грамадзян.

Гэтак было на словах ды на паперы, але не ў жыцці. У тым часе ў Рэчы Паспалітай паскоранымі тэмпамі наступала анархізацыя ўнутрыдзяржаўнага жыцця. Магнаты, шляхта, каталіцкая іерархія з кожным днём усё меней лічыліся з абавязваючымі іх законамі і каралеўскай уладай. Самыя фанатычныя з іх не прызналі прынятых сеймам і зацверджаных каралём правоў Праваслаўя і па-ранейшаму праследавалі праваслаўных, разбуралі цэрквы. Гэта моцна ўзбурыла казакаў, і яны выступілі са зброяй у абарону сваіх, у тым і Праваслаўнай Царквы, правоў. Аднак каралеўскія чыноўнікі рознымі абяцаннямі, хітрыкамі ды правакацыямі разбілі іхнюю еднасць і крывава разграмілі паўстанне ў 1637 годзе. З асаблівай раз'юшанасцю распраўляўся са схопленымі казакамі правадыр польскіх карнікаў Станіслаў Патоцкі. *По Украіне пракацілася хваля праследаванняў. Шлях ад Пераяслаўля да Нежына* (каля 150 км — М. Г.), *якім прайшлі атрады Патоцкага, пазначылі шыбеніцы і калы з целамі паўстанцаў. Забілі Кізыма і яго сына Кізыменку* (актыўных дзеячаў паўстання — М. Г.), *а іхнія адрубаныя галовы страшылі жыхароў Кіева, бо туды ды іх завезлі і выставілі на публічны агляд. Апрача таго шляхта жорстка помсцілася ды распраўлялася са сваімі падданымі, што далучыліся да бунту,* — гэтак піша вядомы польскі гісторык, знаўца мінулага ўкраінскага народа, былы рэктар філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, прафесар **Уладзіслаў Сэрчык** у кнізе *На далекай Украіне*. Пасля таго, як паўстанне было задушана, сейм пазбавіў казакаў усіх правоў і маёмасці. А казакі ж былі праваслаўнымі, значыць пад гэты сеймавы закон падпадалі ўсе праваслаўныя Украіны і Беларусі, праваслаўнае духавенства лічылі казацкімі правадырамі і забівалі без суда, таксама знішчалі манахаў, палілі цэрквы і манастыры, разганялі брацтвы, ліквідавалі іхнія школкі, шпіталі, прытулкі. Кароль супрацілўяўся гэтай расправе, але ніхто яго не слухаў.

Гэтак праменьчык надзеі праваслаўных Беларусі і Украіны на лепшае быў патоплены ў моры слёз і крыві.

**Мікола Гайдук**



 

# Новыя вершы

*Сяргей Панізнік*

* * *

...Як памірыць царкву
з касцёлам?
Двух святароў як памірыць?
...Вось так па беларускіх сёлах
свячэнне рознае гарыць.
З такім вось наказаннем боскім
мае раз'яты карані.
Але ж — адным — сплываюць
воскам
прад Богам праведным агні!
І як мне быць? Куды хіліцца?
О, Усявышні, змогі дай!
Не можа там стаяць граніца,
дзе вернік з вернікам — ратай!
*(З паэмы
„У пошуках радзіннага гнязда")*

*Алена Яскевіч*

* * *

Ужо напісаны радок пра каго
гаворкаю, Словам Тваім
адгукнецца...
А дзея пашырыцца
у часе зліецца, —

Праз лікі іконаў
спакой Твой і боль.

* * *

Пропаведзь — як паданне,
прарочаскіх вуснаў сталь.

Каханне — як чаканне,
неспадзяваных імкненняў жаль.

Студзёная пара года,
снег — бы лязо.

„Знаменія" ікона,
бы райскі сон.

* * *

Калі прыцісне край жыцця,
Калі душа цяжэй за цела,
І хочацца ў імройным сне
Праплыць пад ветразем Надзеі,
Праз боль вачэй, праз сэрца стог
З пакутаў Муза выкрадае...

*Міра Лукша*

### Я кахаю ў белліцэі

Ці гэта ёсць дзіва,
што я сёння рана
Сарваўся на світанні,
жвавы і вясёлы,
Калі малады я, калі закаханы,
А мая каханая ходзіць
разам у школу?

У класе у адным мы,
у адным ліцэі,
Яна — гарадская, а я
— хлопец з вёскі.
З кожным днём я маю
усё больш надзеі
Выказаць каханне,
але не па-польску.

Можна вершык з кніжкі
дзеўцы напісаці:
Славацкі, Міцкевіч, Стаф
ці нават Тувім.
Можна і самому нешта
зрыфмаваці,
Że do śmierci samej
цябе не забуду.

Больш арыгінальным буду
ўсё ж я, слухай:
Калі, сам не ўмеўшы,
працытую Шведа
Ці Барскага вершык ёй шапну
на вуха,
Назаву Вясёлкай, Сонейкам,
Рагнедай!..

Ці гэта ёсць дзіва, што я
сёння рана
Сарваўся на світанні,
жвавы і вясёлы,
Калі малады я, калі
закаханы,
А мая каханая ходзіць
разам у школу!

### Самотны

Сяджу калом у хаце,
Што ж мне больш, старэчу?
Ў акно выглядаці,
Чакаці сустрэчаў...
Калі прыйдуць унукі,
Толькі грошай просяць,
Не добрай навукі...
І радасць выносяць.

*Юры Баена*

### На мяжы

Палыны займаюць край.
Шчыльна стаіць народ
ужо ля брамы.

Чужыя варты
правяраюць дакументы,
паглядаюць у вочы,
поўзаюць па сэрцах,
выварочваюць памяць...

Змалку я
на дне душы
нясу айчынны скарб —
матчын дар...

І не іду ў чаргу
да тых,
якія ціха
пакідаюць край!..

* * *

З рэха
абарончых бітваў
з крыку
без адказаў
з ціхай роспачы
айчыннай
са слоў надзеі
паўшых —

малыя дні
будучыня наша
вечнасць?

* * *

Побач разгалістай сасны
тры крыжы.
Палявы граніт.
Камень пры камені.

Пальцамі жывой рукі
дакранаю кірыліцы.

Як сляпы,
шукаю рук,
вачэй Маці...

*Барыс Руско*

### Глянец ілюзіі

Цікава,
імперыі канаюць як людзі.
І толькі абеліск вязне
ў целе гісторыі.
У кожнай справе свае
пракуроры і адвакаты
(выснова з найноўшых
і старых актаў).
Сапраўдны Суддзя
яшчэ не з'явіўся.
Па пісаным слове
дыягназ муміі?
Хіба, масавы дол раскапаўшы
да апошняга слоя
збранзавелых астанкаў,
знойдзем пашпарт ахвяры.
Цікава,
блішчаць і камяні,
абдзертыя з шурпатай
абалонкі праўды.

### Шрамы

Па шрамах
дабяжыш
да вяршка бізуна
і ўбачыш
акрываўленыя плечы,
і енк пачуеш
расцятых вуснаў,
і дзікасць ката труслівага
прыкмеціш,
і дабрадушнасць
распарадчыка,
што чорным
атрамантам
піша
прысуд чырвоны.

*Уладзімір Саўчук*

* * *

Блудны сын шукаў дарогі
турма закрыла гоман вуліц
нечага цвёрдага шукалі ногі
душа чакала вялікіх слоў
і што
разагналі бяседу без прычыны
цяпер чакаюць ля дзвярэй
ад панядзелка да суботы
пасякі цягнуцца дарогай
і мяккім словам
і мяккаю душою
і мяккія дрыжаць ногі
вось бачыш браток
пустое гняздо
а зязюля кавала
доўгія гады
на чужых гнёздах
і дзецям прыйшлося
дажываць
па-старому

### А ты заўсёды

Скажы мне мілы —
ці сябру пазнаеш па душы? —
словы якіх ты чакаў
растапіліся і адплылі
як слёзы бязвер'я.
Сапраўды
лягчэй жыццё скружыць
і аддзяліць палову
ад слоў, якія сееш
прыгаршчамі
не сорамна што расце
беларуская мова
ў беластоцкім агародзе
няхай вярба шуміць
няхай бяроза плача а Ты
заўсёды будзь сабою
таму што Ты —
беларус.

* * *

Дабег
ужо дваццаты век
на стадыён праўды
а Ты
чалавек з аўтарытэтам
разгарні свае мыслі
ці не памяшалася палова
і чыстае зерне слоў
калі хочаш пераступіць
парог чыстаты.
Па якой дарозе
праграма нашага жыцця,
хто нам падказвае
куды павярнуць зрок свой
чаго слухаць а калі
пахіліць галаву
дзякуючы:
за ежу на талерцы
за цяпло мацярынскіх слоў
за споўненую ноч
і нядзельку
без грахоў.

*Алесь Залескі*

* * *

Вятрыскам восеньскім
над зледзянелым полем
Зрывае час апошнія лісты-хвіліны
з дрэва
А поле засыпае снегам
белым-белым
І робіць гэта раптам з радасцю,
то з болем.
У знямозе дрэва крэкча
ледзьве чутна — крэ-ва
Успамінаючы як угіналася
пад спелым
Чырвоных яблыкаў багатым
плёнам.

### Замова на добрую дарогу

У чыстым небе ў вечар
Спаць сонейка клалася
Празрыстымі росамі
Ўночы абмывалася.
А сёння па золаку
Зара ўзнялася,
На парозе з сонейкам
Сустрэлася-спаткалася,
Залатыя ключыкі
У ручкі свае брала,
Дубовыя дзверкі
Сябру адмыкала,
У шатры шаўковым
Выйсце адхінала,
Мілага ў неба
Ранкам выпускала,
Сонейку ў ручкі
Ключыкі лажыла,
Добрую дарогу
Табе варажыла.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*VIII клас Пачатковай школы ў Чыжах.* Малюнак Агнешкі КАЧАНОЎСКАЙ і Юліты ГАЎРЫЛЮК

## Новыя вершы Агнешкі Х.

Па натуры сваёй
адступаю ад першай калоны.
Выбіраю сцерпную гарачынь.
Нельга абняць прастору,
нельга абысціся без слоў.
Але ты ведаеш
як цяжка, чытаючы сказы,
знайсці ў іх словы...

* * *

Аснова неазначальнай формы — гэта я.
Форма прошлага часу і ўмоўнага ладу,
дададзены член сказа,
антанім шчасця,
глухая зычная,
прыстаўны гук,
недапісанае слова — гэта я.

* * *

Трыста шэсцьдзесят пяць — дзён у годзе
Трыста шэсцьдзесят пяць — усходаў і захадаў сонца
Трыста шэсцьдзесят пяць — нагод да знішчэння
Трыста шэсцьдзесят пяць — нагод да агрэсіі
Трыста шэсцьдзесят пяць — слёз натуры
Адна думка...

**Ад рэдакцыі:** Прывітанне, Агнешка! Цешыць мяне, што і далей пішаш беларускія вершы. І асабліва тое, што не робіш гэтага з нагоды конкурсаў. Вершы твае, як заўсёды, вартыя ўвагі. Жадаю далейшых поспехаў і чакаю наступных вершаў.

## Бежанства

Летам 1915 года, калі рускія войскі атрымалі паражэнне на нямецкім фронце і вымушаны былі адступаць на ўсход, ваеннае камандаванне прыняло тактыку „спаленай зямлі”. Ішло пра тое, каб ворагу на шырокай тэрыторыі пакінуць толькі папялішчы. Таму, пачаўшы ад Беласточчыны, была запланавана эвакуацыя насельніцтва ў глыб Расіі разам з маёмасцю, а ўсе быдынкі і ўраджай мелі быць спалены. Каб больш паспяхова правесці гэтую акцыю, улады распускалі інфармацыі, што немцы страшэнна здзекуюцца над праваслаўным насельніцтвам на акупаванай імі тэрыторыі. Таму амаль сто працэнтаў вернікаў гэтага веравызнання на Беласточчыне, без ніякіх іншых форм заахвочвання, рушыла цэлымі сем'ямі на ўсход. Рухаліся яны на конных фурманках з невялікім запасам харчоў, адзення і корму. Чыгуначны транспарт, амаль цалкам пераключаны на патрэбы фронту, быў зусім недаступны цывільным бежанцам. Восенню 1915 года толькі праз Магілёўскую губерню прайшло звыш мільёна ўцекачоў. У заходняй Беларусі праваслаўных асталося вельмі мала.

Бежанцы ў наступных гадах рассыпаліся па ўсёй тэрыторыі вялікай Расіі. Нашы продкі з Беласточчыны былі на Кубані, за Уралам, далёка ў Сібіры, у Маскве і Пецярбургу. Багатае і добрасумленнае тады яшчэ рускае грамадства забяспечыла бежанцам з Беларусі не горшыя ўмовы жыцця, чым мелі яны ў сябе на Бацькаўшчыне. Дарослыя найчасцей працавалі, дзеці вучыліся ў расейскіх школах. Толькі пасля бальшавіцкай рэвалюцыі Расію заліла хваля зверства, голаду і хвароб. Большасць выхадцаў з заходняй Беларусі вырашыла вяртацца дадому. Не ўсім пашанцавала. У дарозе ад голаду і хвароб загінула большасць дзяцей і пажылых людзей. Тыя, якія вярнуліся, не мелі нічога апрача зарослай кустамі і някранутай ад некалькіх гадоў плугам зямлі. Не мелі ні дому, ні каня, ні каровы, ні плуга, ні матычкі. Усё трэба было пачынаць з нуля.

## Ліст з Чыжоў

Сардэчна Цябе вітаюць вучаніцы восьмага класа з Пачатковай школы ў Чыжах. Не так даўно, бо 1 верасня пачаўся новы школьны год. Мы ўжо ў восьмым класе, чакаюць нас, і не толькі, экзамены ў сярэднія школы, якіх мы крыху баімся — як кожны. Мы думаем паступіць у беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Як будзе — не ведаем...

Яшчэ не так даўно былі канікулы, якія правялі мы цікава і весела. Мы і іншыя вучні вярнуліся ў школу з ахвотай, але і з жалем. На канікулах не трэба было вучыцца і рыхтаваць дамашніх работ, але хацелася таксама пабачыць сяброваў і сяброў. На гэтым канчаем свой ліст.

**Агнешка Качаноўская**
**Юліта Гаўрылюк**

## Першыя літары з найлепшай сяброўкай

Я — вучаніца ІІ класа ў школе ў Нараўцы. Гэта вельмі прыгожая школа і мы ўсе рады, што ў такую школу ходзім.

У мяне ёсць найлепшая сяброўка Іза. Мы сядзім на ўроках разам за партай. Я яе прывяла на ўрок беларускай мовы, і мы вывучаем яе разам. Іза — не беларуска, але не хоча ведаць менш за мяне. Нам вельмі цікава пазнаваць беларускія літары, сярод якіх ёсць шмат падобных на польскія.

Ліст гэты дапамагла мне пісаць цёця, бо ж я яшчэ не ведаю ўсіх літар.

**Мартына Леанеўская**
**ПШ у Нараўцы**

## Міфы Старой Беларусі

**3. Балотнік**

Балотнік, як і Аржавеннік ці Багнік, жыве сярод балот і багны. У хаце нікому з людзей не давялося бачыць Балотніка такім, якім ёсць ён на самай справе, але вядома, што ён самы пачварны з нячысцікаў. Балотнік страшэнна тоўсты, зусім без вачэй, аблеплены тоўстым слаём гразі, да якой ліпнуць у беспарадку водарасці, мохавыя валокны, смаўжы, жукі і іншыя вадзяныя насякомыя. Балотнік цешыцца, калі на паверхні яго жытла з'яўляецца жывіна або чалавек. Каб змяніць ахвяру, ён здольны раўці як карова, кракаць па-качынаму, булькаць як цецярук, рагатаць як малады чалавек.

Часта сама прырода дапамагае Балатніку. На паверхні жытла гэтага нячысціка растуць кветкі, журавіна, грыбы. Тады і Балотнік патаемна вырошчвае паміж імі каварны багун, якім здурманьвае галаву наведальніку.

Для Балотніка патрэбнае глыбокае балота, багна. У іншым выпадку ягоныя ахвяры маюць магчымасць уцячы з яго здрадніцкай пасткі. Самай непрыветлівай парой года для гэтага нячысціка з'яўляецца зіма. Лютыя маразы, што вымарожваюць балоты, могуць забіць Балотніка.

## Польска-беларуская крыжаванка № 39

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Maleństwo
Rozkaz
Wiara
Witka
Karma
Czynsz
Mydło
Zapach
Żart
Strych
Lozanna
Woda
Etat



Талон „Зоркі” № 39
28.09.1997

# Містэр Воцат

*(англійская казка)*

Містэр і місіс Воцат жылі ў воцатнай бутэльцы. Вось аднойчы містэр Воцат кудысьці выбраўся, а місіс Воцат узялася старанна падмятаць падлогу. Яна была вельмі добрая гаспадыня! Але раптам яна знянацку стукнула драўлянай шчоткай па сцяне, і ўвесь дом — дзын-дзын! — разляцеўся на друзачкі.

Місіс Воцат у роспачы кінулася насустрач мужу.

— Містэр Воцат, містэр Воцат! — закрычала яна, як толькі ўбачыла яго. — Мы згалелі, зусім згалелі! Я разбіла наш дом. Ён разляцеўся на дробныя кавалачкі!

— Ну-ну, дарагая, — сказаў містэр Воцат, — давай лепш падумаем, што нам цяпер рабіць. Глядзі, дзверы цэлыя! Не дарэмна кажуць: „У каго дзверы, у таго і дом". Вось я закіну дзверы сабе на спіну, і мы з табой пойдзем па свеце шчасця шукаць.

І яны пайшлі. Ішлі-ішлі цэлы дзень, а пад ноч дабраліся да дрымучага лесу. Абое проста з сіл выбіліся і містэр Воцат сказаў:

— Зараз я залезу на дрэва і зацягну туды дзверы, а ты лезь за мной!

Так яны і зрабілі. Залезлі на дрэва, зацягнулі дзверы і тут жа моцна заснулі. Сярод ночы містэра Воцата разбудзілі чыесьці галасы. Зірнуў ён уніз, і ў яго душа ў пяткі зайшла ад страху. Пад дрэвам сабралася цэлая шайка зладзеяў. Зладзеі дзялілі сваю здабычу.

— Глядзі, Джэк! — сказаў адзін. — Вось табе пяць фунтаў. А табе, Біл, дзесяць. Ну, а табе, Боб, тры фунты.

Містэр Воцат не мог болей слухаць — так жудасна яму стала. Яго нават затрэсла ад страху, ды так, што дзверы таксама затрэсліся і зваліліся проста на галовы зладзеям. Тыя кінуліся наўцёкі. А містэр Воцат баяўся і паварушыцца, пакуль зусім не развіднела. Але вось ён, нарэшце, злез з дрэва і падняў дзверы. І што ж ён убачыў пад імі? Цэлую кучу залатых гіней!

— Хутчэй злазь, місіс Воцат! — закрычаў ён. — Хутчэй злазь! Мы разбагацелі!

Місіс Воцат як убачыла грошы, так і заскакала ад радасці.

— Цяпер, мілы мой, — сказала яна, — я навучу цябе, што рабіць. Тут недалёка ў горадзе кірмаш. Пайдзі туды і купі карову. Сарака гіней якраз хопіць, яшчэ і застанецца. Я ўмею рабіць сыр і збіваць масла. Ты будзеш прадаваць іх на базары, і мы з табою зажывём на славу!

Містэр Воцат з радасцю згадзіўся, узяў грошы і накіраваўся ў горад. Дабраўся на кірмаш і доўга хадзіў узад і ўперад, пакуль раптам не ўбачыў, што прадаецца вельмі добрая рыжая карова.

„Эх, вось бы мне гэтую карову! — падумаў містэр Воцат. — Тады шчаслівейшага за мяне нікога б на свеце не было!"

І ён сказаў, што дасць за карову ўсе свае сорак гіней. Прадавец адказаў, што сорак гіней — гэта, канечне, невялікія грошы, але ён, так і быць, не будзе скнарнічаць дзеля старога знаёмства. Старгаваліся. Містэр Воцат забраў карову і пачаў вадзіць яе туды-сюды, сваёй пакупкай хваліцца.

Трохі счакаўшы сустрэўся яму валыншчык. Ён іграў на валынцы — „туідл-дам, туідл-дам", за ім гурмой беглі дзеці, а грошы так і сыпаліся ў яго кішэні.

„Эх, — падумаў містэр Воцат, — вось бы мне такую валынку! Тады шчаслівейшага за мяне нікога б на свеце не было! Ну і разбагацеў бы я!"

І ён падышоў да валыншчыка.

— Што за валынка ў цябе, дружа! — сказаў містэр Воцат. — Цуд! Мабыць, яна табе процьму грошай прыносіць?

— Ды што ўжо і казаць, — прамовіў валыншчык, — кучу грошай заграбаю. Валынка што трэба!

— Вось бы мне такую! — усклікнуў містэр Воцат.

— Што ж, — сказаў валыншчык, — магу яе прадаць дзеля старога знаёмства. Забірай валынку вось за гэтую рыжую карову.

Містэр Воцат узяў валынку і пачаў прахаджвацца ўзад і ўперад са сваім набыткам. Але як ні стараўся сыграць на валынцы хоць праcценькую песеньку, нічога ў яго не выходзіла. Не зарабіў ні пенса, а хлапчукі беглі за ім, смяяліся і закідвалі яго граззю.

Бедны містэр Воцат вырашыў, што час вяртацца дамоў, ды і рукі ў яго зусім адубелі. І вось, калі ён ужо выходзіў з горада, сустрэўся яму чалавек у цёплых пальчатках.

„Ох, як жа ў мяне рукі замерзлі! — падумаў містэр Воцат. — Вось бы мне такія пальчаткі! Тады шчаслівейшага за мяне нікога б на свеце не было!"

Ён падышоў к чалавеку і сказаў:

— Ну і пальчаткі ў цябе, дружа! Выдатныя!

— Яшчэ б! Лістапад на дварэ, а ў іх рукам так цёпла, што цяплей і быць не можа.

— Эх, — уздыхнуў містэр Воцат, — вось бы мне такія!

— А колькі ты за іх дасі? — спытаў чалавек. — Бадай, я мог бы памяняць іх вось на гэтую валынку дзеля старога знаёмства.

— Добра! — усклікнуў містэр Воцат.

Надзеў пальчаткі і дамоў пайшоў дужа радасны.

Ішоў-ішоў, зусім з сіл выбіўся і раптам сустрэў чалавека з тоўстым кіем у руках.

„Вось бы мне гэты кій! — падумаў містэр Воцат. — Тады шчаслівейшага за мяне нікога б на свеце не было!"

І ён сказаў чалавеку:

— Што за кій у цябе, дружа! Вялікая рэдкасць!

— Кій добры, — адклікнуўся чалавек. — Нямала міль я з ім прайшоў, і быў ён мне надзейным спадарожнікам. Але калі ён табе так спадабаўся, я, бадай, гатовы аддаць яго вось за гэтыя пальчаткі. Дзеля старога знаёмства, канечне.

Рукі містэра Воцата сагрэліся, затое ногі яго так стаміліся, што ён з радасцю згадзіўся на мену.

Вось даплёўся містэр Воцат да таго лесу, дзе пакінуў жонку, і раптам чуе:

— Містэр Воцат, містэр Воцат! — Гэта папугай азваўся з дрэва. — Эх ты, няўдачнік! Пайшоў на кірмаш, усе свае грошыкі за адну карову выкінуў. Мала таго — карову на валынку памяняў. А валынка і дзесятай долі тваіх грошай не каштавала, да таго ж іграць на ёй ты не ўмееш. Ну і дурачыска! Не паспеў узяць валынку, як памяняў яе на пальчаткі. А яны ў чатыры разы менш каштавалі. Узяў пальчаткі, памяняў іх на нікчэмны кій. Было ў цябе сорак гіней, а цяпер ні каровы, ні валынкі, ні пальчатак — няма чым пахваліцца: толькі гэты марны кій застаўся! Але ж ты ў любой жывой агароджы мог бы выразаць такі! Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

Папугай усё рагатаў і рагатаў, так што містэр Воцат нарэшце разлаваўся і запусціў у яго кіем. Кій засеў у голлі, і вось вярнуўся містэр Воцат у лес да жонкі без грошай, без каровы, без валынкі, без пальчатак і нават без кія.



*Дзяўчаты з Гарадка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Пятро Прыходзька**

## Зорная калыханка

Спі, засні, саколік!
Люлі-люлі-бай!
Ціха ў наваколлі,
Не гамоніць гай.

Вецер пад галінкі
Ўлёгся адпачыць.
Толькі наша, сынку,
Зорачка не спіць.

Тая, што ірдзее
Між усіх планет,
Светлаю надзеяй
Азарае свет.

Цёпла ёй ці золка,
Ведаць ты хацеў.
Тата твой да зоркі
Сёння паляцеў.

Спі! Хай зорка свеціць,
Хай прысняцца сны,
Што нідзе на свеце
Больш няма вайны.

## Вясёлы куточак

Ляснік пытаецца хлопчыка:

— Ясь, бачыў ты лісу?

— Толькі ў тэлебачанні.

— А ў лесе?

— Мы не бярэм з сабой туды тэлевізара.

* * *

Янка гаворыць сяброўцы:

— Ведаеш, ты мне часам падабаешся!

— Скажы, калі.

— Калі прачытаю са тры рамантычныя кніжкі.

**Даслаў Тамаш Дзямянюк**
**VI кл. ПШ у Чыжах**




*Малюнак Тамаша ДЗЕМЯНЮКА*

# Апошняе падарожжа

— Ну, скажы ты мне так папраўдзе, колькі такі рэнтыст ці пенсіянер можа пажыць?.. Не ведаеш? То я табе скажу! Пакуль выхадзіць тое, што яму законна належыцца, то ўжо адной нагою ў магіле стаіць. А я мяркую так: каб адкладаў ён тое, што забірае яму ўстанова сацыяльных страхаванняў, то на старасць жыў бы прыпяваючы. Ну, што не так? Навошта далёка шукаць, калі так з маёй Манькай было. Так і загналі яе на той свет. Два гады будзе, як падалася ў сваё апошняе падарожжа, — гаворыць з жалем Уладзімір Ахрымюк з Малых Тынявіч.

— Вы намякаеце, што яе нехта забіў? — спыняю ягоны маналог.

— Не, не даслоўна так, каб узяць сякеру і з размаху, але давялі да гэтага. Не магла перажыць яна гэтай крыўды. Хацела дабіцца свайго. Памятаю, як сказала на ад'ездак: „То я ўжо, Валодзя, не хутка вярнуся...” Я гляджу на яе, а яна такая задуманая, непрысутная. Мяне нешта ткнула. „Не едзь, Маню”, — гавару, а яна: „Мушу, Валодзя! Мушу! Дзесьці гэтая праўда ў канцы канцоў мусіць быць!”

І гэта былі яе апошнія словы.

Спадары Марыя і Уладзімір Ахрымюкі з Малых Тынявіч, нягледзячы на свае маладыя яшчэ гады (мелі ўсяго толькі па сорак), перадалі сваю гаспадарку дзяржаве. Невялікая яна, праўда, была, — усяго сем гектараў разам з лугамі, але і на гэта сіл не хапіла. Уладзімір па стане свайго здароўя быў ужо на рэнце. Атрымоўваў яе з мясцовага сельскагаспадарчага кааператыва, дзе назіраў за жывёлай.

— Я на сваю рэнту мог бы пражыць і не працуючы, але Маня не дазваляла марнець гаспадарцы. Дапамагаў і я наколькі сілы дазвалялі. Хаця б нават з тае прычыны, каб людзі не смяяліся, што баба на мяне працуе, як на абібока нейкага. Але лёс хацеў, што і яна занядужала. Шкада было змарнаваць гаспадарку, а ў тыя часы ахвотных на яе замнога не было. Зямля без чалавека дзічэе хутка.

Пагаварылі, паразважалі Ахрымюкі і вырашылі перадаць свае гектары дзяржаве ўзамен за рэнту. Падалі прашэнне ў Гмінную ўправу ў Нарве. І праблема паявілася якраз там, дзе яе не спадзяваліся. Зямлю ўзялі ад абаіх, а рэнту далі толькі Уладзіміру. А калі Ахрымюкі пачалі дабівацца свайго, бо Уладзіміраў акт на зямлю ўзялі, а жончын пакінулі, гаворачы, што гэта іх супольная ўласнасць і дадалі, што і з адной рэнты пражыць можна.

— Пэўна, усё можна. Адзін нават рыбу ад вады адзвычаіў, толькі калі пасля нейкага часу ўкінуў яе ў сажалку, то яна ўтапілася. Чаму мелі жыць з адной абскубанай належнасці, калі дзве прыслугоўваюць? — гаворыць Уладзімір. — Праўда, калі пачалі мы націскаць, то двойчы прызначылі так званую квартальную дапамогу.

І тады Марыя Ахрымюк пажалілася на сваю крыўду ў Судзе працы і сацыяльных страхаванняў. Пасля нейкага часу гміна ў Нарве атрымала адказ з агаворкай, што „ў дасланых ім дакументах не хапае самага істотнага — прапановы гміны прызначыць пенсію па інваліднасці з прычыны працы на гаспадарцы”. Валакіта трывала ўжо шэсць гадоў. І яшчэ не хапала года, каб Акруговая лекарская камісія па справах інваліднасці № 12 у Гайнаўцы выдала рашэнне аб тым, што Марыя Ахрымюк трывала нядатная да працы ў гаспадарцы і што гэтая непрыдатнасць працягваецца здаўна.

— Калі яна даведалася, што гміна ўзяла ад нас зямлю як ад інвалідаў, а з прапановай даць інвалідную рэнту не выступіла, — гаворыць Уладзімір, — дык так знервавалася, што проста месца не магла знайсці. Мяне таксама ўзбударажыла. Але гэта не канец.

Гаспадарылі Ахрымюкі на сваіх 29 сотках, надзеленых ім як агародчык ды чакалі на належнасць як з мора пагоды. Усё атрымоўвалі шматлікія пісулькі, што быццам бы яны надалей гаспадараць на сваёй старой гаспадарцы. Зноў трэба было часу, каб высветліць, што іх гаспадарку гміна аддала ў карыстанне зусім каму іншаму на аснове абмену грунтамі. І пачалася папяровая гульня. Пісулькі кружылі там і назад — то з гміны ва ўстанову сацыяльнага страхавання, то ад іх у гміну. У канцы канцоў знайшлі выхад — складчыны, моў, не плачаныя.

— Ды якія складчыны? — спытаў я, — гаворыць Уладзімір. — Ты ж не маеш зямлі. Ад моманту, калі аддалі яе дзяржаве, ніхто аб складчынах не напамінаў. Мелі зямлю — плацілі рэгулярна.

Закід у асноўным быў накіраваны да жонкі, але на яе імя таксама нічога не прысылалі. У канцы канцоў прыйшло. Заплацілі. Але па нейкім часе з Гайнаўкі назад адаслалі грошы. Яны другую складчыну выслалі, а тыя зноў адаслалі. І нехта параіў, што найлепш было б, каб спадарыня Марыя выпісалася з Тынявіч і прапісалася ў зяця. Так і зрабіла. Прапісалася на пастаяннае жыццё да дачкі ў Збучы.

— Дык, значыць, жонка ад вас выбралася?

— Не, жыла і тут, і там. Часцей тут — варыла, мыла, прыбірала. Заедзе да дачкі — унукаў пільнуе, — тлумачыць Уладзімір.

У каны канцоў вылічылі, што Марыя Ахрымюк павінна ўплаціць 16 млн. (на старыя грошы) складчын і атрымае рэнту.

— Ну, што ж, мы параіліся з сынам, пагаварылі і дайшлі да вываду: калі мае гэта дапамагчы справе, то трэба заплаціць. Бог адзін ведае, колькі чалавеку пісана.

Пазычылі ў сына патрэбную суму і павезла Марыя ў Гайнаўку плаціць. А там і слухаць не хочуць. Нават і прыступу няма. Плачучы, вярталася дамоў.

— Памятаю, была субота, — гаворыць Уладзімір. — Цэлую ноч вока не заплюшчыла.

— Знаеш што, Валодзя, — сказала, — папрашу зяця і ён мяне завязе ў Беласток. А там папытаю, чаму грошай не хочуць прыняць. А можа і заплачу на месцы. Мусіць жа якаясьці справядлівасць быць на гэтым свеце. Не хутка я ўжо да цябе, Валодзя, прыеду.

Зяць Мікалай не надта хацеў ехаць, праца пільная пры гаспадарцы, але паслухаўся. Пры нагодзе і свае справы рашыў аформіць. Ехалі — жонка з дзіцём, цешча і ён за шафёра. Было слізка. Уязджаючы на шашу, Мікалай угледзеў, што на абочыне ляжыць перакулены ўверх коламі фургон. Пачаў тармазіць і хацеў з'ехаць у лясок. Не паспеў — якраз выехаў трактар з прычэпаю, на якой везлі карову на пункт скупкі. Стукнуліся. Марыя Ахрымюк загінула, дачка яе патрапіла 20 працэнтаў здароўя, пакалечыліся дзіця і шафёр.

Жыццё развязала праблему, якой не змаглі рашыць людзі.

— Чую вялікі боль і вялікую крыўду. За сваю працу, за страту здароўя падзякавалі мне тым, што ў няпоўныя шэсцьдзесят гадоў застаўся я ўдаўцом, знясілены хваробаю і з акрываўленай душою. Хворы ды яшчэ і адзінокі. А яна ж не хацела больш, як толькі дабіцца свайго.

**Міхаль Пашкоўскі**

# Белавежская дрымота

Турыстычны сезон у Белавежы канчаецца. Які ён быў? Адказаць няцяжка — больш-менш такі сам як і ў папярэдніх гадах. Спецыяльных атракцыёнаў звычайныя турысты не мелі. А прыехала іх сюды ў бягучым годзе на пару тысяч больш, чым летась. Да паловы верасня г.г. налічана каля 75 тысяч наведвальнікаў, у тым ліку 5 тысяч з заграніцы.

Хітам сёлетняга сезона можна палічыць вельмі прыгожы альбом „Пульс першабытнай пушчы. Белавежскі нацыянальны парк” Яна Валенціка. Зараз выдаўцы рыхтуюць яго англійскую версію. Альбом, як і раней выдадзеная відэакасета з аднайменным прыродазнаўчым тэлесерыялам, добра рэкламуюць гэты закавулак свету. Апрача гэтага турыст мог таксама купіць відэакасету з фільмам „Зямля каралеўскіх пушч” Тадэўша Быстрама, прысвечаным прыродзе Беласточчыны.

На жаль, у далейшым не паявіўся ніводзін турыстычны даведнік аб белавежскай жамчужыне. Праўда, Паўночнападляшскае таварыства аховы птушак выпусціла „Турыстычны інфарматар Белавежа '91—'98” у апрацоўцы Пятра Атахоўскага і Галіны ды Кароля Зубоў, дык ён па сваёй неабшырнасці, лаканічнасці і жудаснай цане (я купіў яго ў краме ПТТК за 6 зл!) не карыстаўся ніякім поспехам. Зрэшты, не такога выдання наведвальнік чакае. Каб не дзве, выдадзеныя ў пачатку васьмідзесятых гадоў брашуры (і па той прычыне яны падаюць неактуальныя інфармацыі), не было б турысту ўвогуле што купіць. Добра, што хоць карты пушчы знаходзяцца ў пастаянным продажы.

А наогул, ці ў мястэчку нехта дбае пра тое, каб турыст сапраўды адчуў, што пра яго тут клапоцяцца? Я, бадай, сумняваюся. Планавалася адчыніць кругласутачны пункт турыстычнай інфармацыі — пакуль што гэта не здзейснілася. Ніхто не дбае пра выдаванне камплектных даведнікаў на замежных мовах. Нейкія брашуры выпусціла Надлясніцтва Белавежа і Белавежскі нацыянальны парк, ды яны датычаць толькі паасобных аб'ектаў.

Скандальны стан прадстаўлялі сабой у сезоне некаторыя дарогі, важныя з пункту гледжання турыста. Шырока крытыкаваўся кавалак дарогі ад шашы Гайнаўка — Белавежа ў паказны запаведнік зуброў, поўны выбоінаў. Яго пачалі рамантаваць толькі пад канец сезона. Таксама асфальт на вул. Застава, па якой вядзе шлях ва ўрочышча Старая Белавежа, дзе паляць турыскія кастры, аднавілі толькі што ў палове жніўня. На стаянцы аўтамабіляў у Белавежы мела паявіцца элегантная, сучасная прыбіральня. Дагэтуль паспелі зрабіць толькі падмурак. Не рамантаваліся прыстрэшкі над лаўкамі, пастаўленыя ў многіх пунктах мясцовасці. Аб ндбайнасці пра эстэтыку мястэчка найлепш сведчыць падзіраўленая, аблупленая дошка з прывітальна-развітальнымі надпісамі, якая знаходзіцца ля ўезду ў Белавежу.

Не відаць таксама, каб нехта дбаў пра інфармацыйныя дошкі на шляху „Каралеўскія дубы” ў Старой Белавежы. Не дагледжаны таксама шлях „Рэбры зубра”. Іншыя турыстычныя шляхі вакол Белавежы былі ўлетку нанава абазначаны, а некаторыя крыху змянілі свой маршрут. Але інфармацыю пра гэта цяжка знайсці!

Каб не закончыць допіс у мінорным тоне, адначу, што ў бягучым годзе пачалася будова купальні на рацэ ля моста па вул. Мастовай у Белавежы. На вул. Вашкевіча ж, перад пачатковай школай, асяродкам культуры і царквой, зроблены міні-стаянкі для аўтамабіляў.

А стаць галоўным турыстам году мае шанц лаўрэат Нобелеўскай прэміі, пісьменнік Чэслаў Мілаш, які наведаў Белавежу ў палове ліпеня.

**Пётр Байко**

# У каталіцкім часопісе

Паказаўся вераснёўскі нумар каталіцкага штомесячніка „Więź”, якога змест у большасці прысвечаны Беларусі і беларусам. Аўтарамі артыкулаў у ім з'яўляюцца палітыкі, публіцысты і гісторыкі з Беларусі і Польшчы. У польскай прэсе да гэтай пары вельмі аднабакова пісалася пра Беларусь. Перш за ўсё кідаецца ў вочы некампетэнтнасць большасці аўтараў, паўторы ва ўсялякіх варыянтах старых і новых міфаў.

Нечаканай большасць артыкулаў „Więzi” вылучаецца чымсьці зусім адваротным. Адкрывае нумар „Малітва” Наталлі Арсенневай, надрукаваная на двух мовах. Аналіз палітычных, грамадскіх, эканамічных, гістарычных і псіхалагічных падстаў існуючага рэжыму ў Беларусі аўтарства Анатоля Майсені ўпершыню ўсебакова паказвае польскаму чытачу беларускую рэчаіснасць. Пасля прачытання эсэ Майсені надта акасцянелымі аказваюцца думкі лідэраў антылукашэнкаўскай апазіцыі — Станіслава Багданкевіча і Юрыя Хадыкі, якія выказалі яны ў размове з журналістамі месячніка.

Несумненна, найбольш удалай фатаграфіяй Беларусі і беларусаў з'яўляецца рэпартаж Магдалены Ярэцкай з яе пабыўкі ў Мінску ў ліпені гэтага года. Вобраз гэты дапаўняе сацыялагічны аналіз Рышарда Радзіка пра абумоўленасці нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Мешаныя ўражанні выклікаюць тэксты беларускіх публіцыстаў Сяргея Дубаўца, Наталлі Пятровіч, Уладзіміра Падгола. Паміж думкамі праціскаецца нейкая дзіўная пакорлівасць, падлізніцтва гэтым разам да польскага фактара. Відаць, правілам становіцца тое, што менталітэт апазіцыі ў таталітарных сістэмах з'яўляецца люстравым адбіццём менталітэту ўлады.

**(рэд.)**

# Kalendarz Prawosławny 1998

У продажы ў цэрквах Беласточчыны паказаўся адрыўны *Праваслаўны каляндар на 1998 г.* Выдадзены ён на польскай мове, толькі на адваротным баку лісткоў можна сустрэць фрагменты малітваў і вершы духоўнага характару на рускай, беларускай і украінскай мовах. Змяшчаюцца ў ім інфармацыі пра святых, якія ўшаноўваюцца Праваслаўнай Царквой, а таксама адзначаюцца адпаведныя фрагменты *Святога Пісання*, якія трэба чытаць кожнага дня.

Складальнікам календара з'яўляецца Мікола Гайдук, а выдала яго выдавецтва „Orthdruk”. **(р)**

# Толькі старыя асталіся

**Пра неадлеглае мінулае сваёй вёскі расказвае Ян ГРЫГАРЧУК з Мастаўлян, цяпер жыхар Беластока.**

Пры санацыі ў мастаўлянскую школку хадзілі дзеці з Мастаўлян, Свіслачан, Дублян, Зуброў і з вёсак, што цяпер за дзяржаўнаю мяжой — Барсаўшчыны і Каласоў. Як было дакладна, не помню, бо я толькі ў першы клас хадзіў. Пры савецтах у Мастаўлянах было спачатку трое а пасля двое настаўнікаў; вучылі яны па-руску і па-беларуску, але мы так і так гаварылі. Пад немцам адзін са Свіслачан нечага ў нас вучыў, але ён амаль нічога не вучыў, бо калі чаго і вучыў, дык кінулі, бо не было пасведчанняў; можна сказаць, што школы тады не было.

Пасля вайны не было ў нас шостага і сёмага класаў. Адзін, Залеўскі, такія курсы для шостага класа зрабіў, але пасля месяца яны развАліліся. Было нас траіх хлопцаў і нашы бацькі пахалі ў Шымкі да Васіля Дзуна, які там кіраўніком у школе быў. Ён сказаў наняць нам там пакойчык і мы ў чатыры месяцы завяршылі навуку, бо ў Шымкі мы прыехалі 25 лютага, і ў чэрвені сямікласная школа была за намі. Апрача Дзуна вучыла там яшчэ настаўніца Карнацэвіч. Усіх вучняў мо каля сотні і было; у нашым сёмым класе было каля трыццаці. Былі дзеці з Буд, Навасадаў, Рудні і нават дачка млынара з Бандароў, што паравы млын меў. Хадзілі ў Шымкі, бо ў другіх вёсках не было сёмых класаў.

Пасля школы вярнуўся я ў сваю вёску і стаў дапамагаць бацьку на гаспадарцы. Бацька стары ўжо быў і сказаў мне: „Уладак Зарэцкі пайшоў працаваць настаўнікам, Валенты Сэверын стаў урачом, а ты не пойдзеш нікуды — будзеш мне памагаць". У 50-я гады ўзялі мяне ў SP у Урсус; дваццаць два трактары ў суткі выпускаў завод. Папрацавалі мы там два месяцы і нам запрапанавалі, каб мы там асталіся: днямі працавалі а па вечарах вучыліся — цудоўная прапанова! Сказалі: „Едзьце дадому, пагаварыце з бацькамі, і калі бацькі пазволяць — прыязджайце, мы вам за дарогу вернем. Будзеце жыць у інтэрнаце, харчавацца ў сталоўцы, а пасля пяці гадоў кожны з вас атрымае прафесію..." І каб тады быў бацька сказаў: „Едзь сынок, я неадукаваны, але ты можа выйдзеш у людзі". Але ніхто мне тады не дарадзіў у тыя людзі ісці і я астаўся на вёсцы.

У 62-м годзе, год пасля смерці бацькі, я ажаніўся і ўсе ўжо гаварылі, што забяру я сваю Зосю на гаспадарку; яна ўжо пяць гадоў працавала ў Беластоку. Але пасля вяселля я ёй сказаў: „Ты працуй там далей, а я яшчэ год пабуду на вёсцы". І так было: у 63-м я таксама стаў на працу, у *Ухвытах*. Мама асталася на вёсцы адна, я намаўляў яе, каб кідала гаспадарку і ішла жыць да нас. Спачатку мама не хацела ісці ў горад, але я сказаў: „Калі захварэеце, то не будзе каму вам і вады падаць, і памрэце, і мы пра гэта нават ведаць не будзем". Ну і ўгаварыў, і яна ў 64-м пераехала ў Беласток.

У ліпені 66-га нам абарвалі зарплату — зарабляў я тады 1800 злотаў, а далі толькі 1300; чаму так зрабілі — не ведаю. Ну і нас 240 чалавек звольнілася. І трынаццаткі нам нават за сем месяцаў не далі, а тым, якіх прынялі пасля нас, далі за цэлы год, хаця яны толькі пяць месяцаў былі. Але мы хадзілі ў прафсаюзы і сваё вырвалі. Пайшоў я тады на працу ў малочны завод. А на полі ўжо не рабіў, падаткаў не плаціў, ну і дзяржава забрала нашу гаспадарку.

У 64-м, яшчэ як мама на вёсцы жыла, нейкі хлапец падпаліў адну стадолу. А тады ў Мастаўлянах усе стадолы, крытыя саломаю, стаялі радком; і ўсе па той бок вуліцы, што насупраць рэчкі. І згарэла б усё, каб не рускія пажарнікі, бо нашы з Гарадка то там нічога не зрабілі б. Нехта іх паведаміў і яны з усімі пажарнымі прыладамі, і з лекарам нават, ехалі мостам, што ад Свіслачан у Калодзежанцы быў. Мост той паламаўся і яны так цераз рэчку пераехалі, бо мелка было. У калодзеж *шляўх* кінуць, дзве секунды, і няма вады! Калі падключыліся да рэчкі, далі вады, то і дамы ўратавалі, бо як стадолы гарэлі, то такая гарачыня ўжо была, што з дамоў смала выходзіла. І каб не тыя рускія, то згарэла б уся вёска, як у вайну.

Бо ў вайну, як наступалі саветы, немцы акапаліся перад вёскай. Палову вёскі спалілі, каб лепей рускіх бачыць. Баёў вялікіх тут не было; мо двое сутак. Кажуць, што савецкі разведчык залез на найвышэйшую сасну і высачыў нямецкія войскі, што між узгоркамі за Свіслачанамі стаялі. І саветы далі залп па іх: першы не папаў, але другі быў меткі. І немцы адышлі. А мы трое сутак у лесе за вёскай сядзелі, у зямлянках.

Граніцу ўсталявалі тут недзе ў чэрвені-ліпені 45-га. За граніцу адышоў наш вясковы лес, багаты — там усё было: грыбы, ягады... А ад другіх вёсак: Габятаў, Дублян, ці Барсаўшчыны, то і палі асталіся на другім баку дзяржаўнай мяжы. Яшчэ ў восень 45-га мой бацька вазіў збожжа ў млын у Барсаўшчыну; пасля ўжо не прапускалі.

Калісь, да аднаго мужыка з Коматаўцаў ці Азяран прыехаў з войска сын у водпуск. І ўжо з таго водпуску адвозіць бацька сына на станцыю ў Зубкі. А дома, хаця і бедна жылі, напілі яны здарова, бо сына ж год часу дома не было. Сын сеў у поезд і паехаў, а бацька ахутаўся ў нешта, бо завіруха была, уваліўся ў сані і зараз заснуў. А конік, заміж скрунуць на мост, самапасам пайшоў па *торах* — проста за граніцу. Ну і сталі званіць па каменданта ў Гарадок, а быў ім тады Мальчык: „Забірай свайго грамадзяніна з канём". Паехаў камендант, і аж рукі яму апалі: каб хаця нейкі парадачны той конь за граніцу паказаўся, а то *шкапа*, цэлая аблепленая гноем, мусіць ад роду не чышчаная...

А вось у нашу вёску, пэўна нейкі савецкі афіцэр, малады, рослы, нешта яму там сур'ёзнага пагражала, уцёк; стралялі па ім, але ён у конскі хлеў да майго суседа схаваўся. І знайшлі яго саветы, сабака вынюхаў. І яшчэ адзін адтуль быў уцёк і на нашых могілках на сасну залез, але і да яго сабака прывёў.

Пасля вайны ў Мастаўлянах стаялі 42 хаты. І моладзі тады многа было, забавы ладзілі, найчасцей Трахім Клімовіч на акардэоне іграў, але былі музыканты і з Падазеран, і нават Франё з Крушынян. А гуляла моладзь з навакольных вёсак, і спакойна было. Толькі раз, у Калёнію Мастаўляны прыехалі карагойды з Ялоўкі, пяць нажоў у сцяну ўбілі і капялюшы на іх павесілі; аднаго хлопца тады забілі.

А цяпер у Мастаўлянах толькі старыя асталіся, а ўся моладзь па гарадах раз'ехалася.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Радзіма — Родзіна

**Дадатак IV**

Сённяшнія выказванні вядомага эміграцыйнага святара Аляксандра Надсана мелі месца пасля сумнага акта — рэферэндуму ад 14 мая 1995 года, у выніку якога была моцна абмежаваная ідэя суверэннасці Беларусі, а беларуская мова апынулася ў тым жа паднявольным становішчы, у якім ужо яна знаходзілася пачынаючы ад пачатку страшных трыццатых гадоў. Усе патрыятычныя сілы на Беларусі і па-за яе межамі агарнула прыгнечанасць, часта і стан песімізму і безнадзейнасці. Настрой смутку агарнуў таксама душу вернага сына беларускага народа святара Аляксандра Надсана.

„Так, сталася найгоршае з магчымага. Беларусь вярнулася пад савецкі сцяг. Руская мова яшчэ болей умоцніць сваю пазіцыю ва ўстановах, у школах і... на жаль, у святынях. Многія духоўнікі зробяць усё, каб беларусы маліліся да Бога не на той мове, якую даў ім Бог. Ужо пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі было шмат сімпатыкаў, якія сведчылі, што ідэя свабоды і суверэннасці праводзіцца ўладамі спавольнена і непаслядоўна.

Ну што ж, я не палітык і так сёння як і дагэтуль не магу ўмешвацца ў палітычныя справы. Справы гэтыя мусіць вырашыць увесь беларускі народ. Аднак стан духоўнасці быў і будзе для мяне найважнейшай, прыярытэтнай справай. Веру, што Бог не пакіне Беларусі і душы беларускага народа. Раней ці пазней, але наша народа перакананне, што жыццё ў зняволенасці — гэта жыццё нягоднае чалавека і Бога. А калі ўжо гэтае перакананне пранікне ў сэрцы ўсіх беларусаў, то тады сіла нацыянальнай волі асягне такую моц, якая давядзе наш народ да поўнай незалежнасці і суверэннасці. Вядома, што гэты працэс складаны і, відаць, доўгі. І якраз у гэтым працэсе павінны прымаць удзел усе рэлігійныя канфесіі на Беларусі. Мы, беларускія уніяты, не ўяўляем сабе, што Беларусь можа стацца адзінай краінай у Еўропе, якая ня хоча поўнай свабоды ды незалежнасці. Не ўяўляем, што беларусы могуць быць адзіным еўрапейскім народам, які не хоча карыстацца той мовай, якую даў яму Бог.

Еўрапейскія нормы і крытэрыі агорнуць раней ці пазней таксама і нашу Радзіму. А пакуль што мусім займацца штодзённай нялёгкай працай, тым высілкам, які прычыніцца да таго, што наша Радзіма пачне жыць годным жыццём.

Зразумела, што нашы уніяцкія прыходы, як у эміграцыі, так і на Беларусі будуць паслядоўна карыстацца ў царкоўным і прыватным жыцці беларускай нацыянальнай мовай. Будзем прадаўжаць традыцыю такіх святароў як Сваяк, Зязюля, Германовіч, Тарасевіч, Сіповіч, Чарняўскі, якія разумелі, што нацыянальная мова, таксама як народ, створана Богам.

Так, не лёгка быць сынам ці дачкою беларускага народа, але не таму, што народ гэты дрэнны. Ён вельмі высакародны, добры. На жаль, чужыя народы прыпсавалі нашу нацыянальную душу. Аднак гэта ўсё хвіліннае. Бог паможа нам вылечыць сваю душу. Аднак з гэтага не вынікае, што можам бяздзейнічаць. Ад нас таксама патрабуецца вялікі штодзённы высілак, вялікая праца і ахвярнасць. Мусім безупынна самадасканаліцца і тым самым дасканаліць сваю Радзіму. Веру, што раней ці пазней беларусы стануць ганарыцца сваёй дзяржавай, сваёй незалежнасцю і сваёй нацыянальнай мовай. А ўсе рэлігіі, якія існуюць сярод беларусаў, павінны якраз гэтаму служыць верай і праўдай. Мы ад гэтай праўды ніколі не адступім, бо яна вынікае з Боскіх святых наказаў".

І гэтым заканчваю свой цыкл „Радзіма — Родзіна".

**Алесь Барскі**

# Зайчыкі, зубры і закапянскія зоркі

**— Нашы экспанаты шакіруюць паклоннікаў арыгінальнай творчасці, — кажа Ева Мароз-Кэчынская, ініцыятарка выстаўкі „Непрафесійнае мастацтва". — З другога боку здзіўляюць размахам і разнавіднасцю.**

Ад 22 жніўня г.г. у Белавежскім доме культуры наладжана прэзентацыя вытворчасці пятнаццаці мясцовых разьбяроў-самадзейнікаў. Асноўнае месца займае статуэтка зубра, шырокавядомы сувенір — сімвал Белавежскай пушчы. Побач сустрэнеце зайчыкаў, аленяў, птушачак, драўляныя міскі і ўсякага роду цацкі, што прапануе турыстычны гандаль наведвальнікам.

— Нельга гаварыць тут пра народнае мастацтва, — кажа Е. Мароз-Кэчынская, этнограф. — Сапраўдны мастак, таксама і народны, стварае непаўторныя творы. А ў нас бывае, што пад заказ „Серeліі" „непрафесійны" махне і сотню ідэнтычных вавёрак ці зайчыкаў.

У гміне Белавежа мая субяседніца налічвае 26 вытворцаў турыстычных сувеніраў.

— Многія хочуць астацца ананімнымі, — дадае. — Большасць з іх гэта пенсіянеры або беспрацоўныя. Зараз гэтая дзейнасць не дае значнага прыбытку. Не то, што ў сямідзесятыя гады, калі за зуброў і аленяў можна было пабудавацца. Сённяшнія разьбяры прадаюць свае статуэткі амаль дарма, каб дарабіць да пенсіі ці *куранёўкі.*

Першыя звесткі пра вытворчасць зуброў сягаюць міжваеннага перыяду. Тады ў рамках Нацыянальнага парку дзейнічала этнаграфічная майстэрня, якая прывучала мясцовых сялян к самадзейнасці. Вырэзваць зуброў у дрэве меў навучыць белавежцаў венгерскі мастак.

— Мо гэта легенда, — сумняваецца Е. Мароз-Кэчынская. — Бо ёсць і іншая версія. Паводле яе зуброў пачалі вырэзваць пасля вайны. Самы вялікі ўспых выпадае на сямідзесятыя гады, калі „мастакамі-непрафесіяналамі" цікавілася „Серeлія".

— Ідэя выстаўкі, — кажа яе арганізатар, — ацаніць і надаць усеагульную вядомасць сустраканым прабліскам. Здараецца, што сярод вытворцаў знаходзім таленавітых самадзейнікаў. Яны самі найчасцей пра гэта не ведаюць і сваёй разьбе не прыдаюць значэння.

Дарэчы, жыхары Белавежы да нядаўна яшчэ ўспрымалі хараство пушчы як нешта натуральнае. Не было таму і патрэбы пераносіць гэтай эстэтыкі ў мастацтва. А масавая вытворчасць для турыстычнага гандлю накіравана на халтурную дарогу.

— Хацелася б, каб тутэйшыя людзі не кляпалі закапянскіх зорак, — кажа мая субяседніца. — Каб дапасаваліся да месца і пнрасторы свайго пражывання, каб не таптаді багатай спадчыны продкаў. Тады і Белавежа мела б займальныя турыстычныя атракцыёны. Ну, і цікавейшае жыццё для саміх сябе.

**Ганна Кандрацюк**

# „Добрая навіна”

Так называецца музычны ансамбль вернікаў з Беларусі, які нядаўна наведаў шмат нашых мясцін. У Дубічах-Царкоўных былі яны 31 жніўня ў царкве пяцідзесятнікаў. Урачыстая багаслужба пачалася з малітвы. Пасля спевакі з дапамогай музычных інструментаў вельмі прыгожа праспявалі „Верую”. Пасля спявалі і іншыя беларускія і рускія песні, дзе славілі імя нашага Госпада Ісуса Хрыста. Ансамбль веруючых у складзе пяці мужчын і аднае жанчыны спяваў прыгожа і гарманічна, быццам адзін вялікі хор; напэўна ў гэтым дапамагаў ім сам Бог. А песню „Беларусь” спявалі яны двойчы — бо так захацелі слухачы. Урачыстасць адбывалася на двары, і прысутнічала на ёй многа людзей. У веруючых няма звычаю біць брава, аднак у многіх (у тым ліку і ў мяне) ад уражання ў вачах паявіліся слёзы, што Беларусь жыве, і будзе жыць, і што ёсць такія ахвярныя Божыя слугі. Урачыстасць закончылася малітваю, і хочацца сказаць, што кожны са спевакоў з'яўляецца дасканалым прапаведнікам і аратарам. Можна было ў іх купіць і касеты з іх песнямі. Ад нас яны паехалі ў Міхалова і Гарадок, каб і там славіць Бога і Беларусь. А дзень раней, 30 жніўня, выступілі яны ў Ласінцы, дзе іх слухалі прэзідэнт Аляксандр Квасneўскі і прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч. Ансамбль запрасіла Галоўнае праўленне БГКТ.

**Мікалай Панфілюк**

# Юбілей рамеснікаў

Вельмі ўрачыста адзначылі юбілей 60-годдзя свайго цэха рамеснікі з Бельска-Падляшскага ў Гарадскім доме культуры. На ўрачыстай сустрэчы з гэтай нагоды прысутнічалі высокія госці з ваяводам Анджэем Гаеўскім і бурмістрам Андрэем Сцепанюком. Былі дэлегацыі з Ломжы, Элка, Сямятыч, Беластока і Гайнаўкі. На штандары бельскага рамесніцкага цэха павіс сярэбраны медаль імя Яна Кілінскага; таксама і многія рамеснікі былі ўзнагароджаны медалямі. Юбілейнае спатканне завяршылі выступленні мастацкіх калектываў і ўрачысты абед.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Цуд над Віслай ці міф?

Слухаючы радыёвую і тэлевізійную бразгатню пра цуд над Віслай, чалавек, які крыху пра гэта ведае і не з'яўляецца крывадушнікам, не ведае — смяяцца ці плакаць над фальшам іншых. Найгоршае тое, што гэтаму фальшу нададзены ранг гістарычнай, дзяржаўнай урачыстасці, якая ўжо пяты год адзначаецца 15 жніўня ў Варшаве ля помніка невядомаму салдату з удзелам найвышэйшых улад, арміі, ганаровых гасцей, сцягоў і шмат чаго іншага. Усё робіцца дзеля таго, каб пераканаць уласны народ, які хутка даецца атуманіць, і народы свету, якія толькі цяпер „даведаюцца”, як гэта было з часткай польскай гісторыі, якім таленавітым правадыром быў Юзэф Пілсудскі, ягоныя легіёны і генералы.

Народнае Войска Польскае адзначала свой дзень датай перамогі пад Леніна і гэта не быў міф, але чыстая рэальнасць. Сённяшняя польская сітуацыя адкінула свята 12 кастрычніка з агідай, бо ж гэта камуністычныя войскі, а выбрала гэты дзень (парадокс!), калі Іосіф Вісар'ёнавіч, камандуючы паўднёвым фронтам бальшавіцкіх войск, памог Пілсудскаму затрымаць войскі Міхаіла Тухачэўскага, якія гналі палякаў пад Варшаву. Бо гэта Сталін, частку сваіх войск накіраваў на поўдзень, даючы магчымасць палякам пазбірацца і затрымаць, а пасля адкінуць армію Тухачэўскага на Усход. Сталін меў хворую амбіцыю і не мог прабачыць М. Тухачэўскаму ягонай славы. Не прабачыў і калі стаў „вождём”, расстраляў баявога і разумнейшага маршала.

Калі б польскія палітычныя колы III РП аб гэтым ведалі, а мо лепш сказаць хацелі ведаць, то раз, не асмяшаліся б усправаючы міф за рэчаіснасць, а па-другое, замест Юзэфу Пілсудскаму ставілі б помнікі грузіну Іосіфу Джугашвілі.

**Васіль Петручук**

# Старэем

Праўду піша Ада Чачуга ў сваім артыкуле п.з. „Не пазнала” („Ніва” н-р 27), што мы не стаім на месцы, толькі крочым наперад, бліжэй смерці і ніякія мудрацы і вучоныя не зменяць гэтага парадку. І гэта адзіная ў свеце праўда, праз якую кожны чалавек мусіць прайсці, бедны ці багаты ён, вучоны ці прасцяк. Бо каб можна было адкупіцца ад смерці, дык розныя жулікі, якія нядобрасумленна дабіліся багацця, жылі б на зямлі тысячамі гадоў, а бедныя пастаянна на іх працавалі б. Значыць, адзіная праўда — смерць. Але Хрыстос і яе перамог на крыжы Галгофы і абяцае жыццё вечнае кожнаму, хто крочыць яго сцяжынай пад аўтарытэтам Евангелля.

Так, многія людзі не могуць прымірыцца з тым, што яны пастарэлі і маюць маршчыны на твары, і ногі ўжо не слухаюцца іх, і рукі знясільваюцца, і цэлае цела. А нядаўна ж здавалася яму, што ён герой, малады, здаровы, прыгожы... А тут усё гэта адыходзіць у небыт; і зрок, і слых, і розум слабеюць. Мо толькі адзін язык яшчэ гладка ілжэ. І некаторыя з гэтых людзей вельмі гневаюцца, калі ім сказаць, што пастарэлі так, што не пазнаць іх. Калісьці адна мая сваячка вельмі абурылася на аднаго пажылога дзядзьку, які спаткаўшы яе на свяце Пятра і Паўла, так сказаў ёй: „Ты вельмі пастарэла, я з цяжкасцю цябе пазнаў”. Яна тады стрымалася і нават віду не падала, але ўжо ў хаце бацькоў праклінала яго, што ён свіння без інтэлігентнасці. А мне здаецца, што дзядзька праўду сказаў, а са старасцю трэба прымірыцца кожнаму з нас.

**Мікалай Панфілюк**

З майго панадворка

# Дзе праўда?

9 верасня ў Нававольскай парафіі памёр чалавек. Якая была прычына смерці — не ведаю. Сям'я яго бедная, таму гмінныя ўлады дапамаглі пахаваць цела. Сям'я хацела таксама пахаваць нябожчыка па-хрысціянску, але святар не прыняў яго ў царкву. Я заўважыў, што як памрэ багаты чалавек, тады развітацца з ім ідзе натоўп людзей, а бацюшка моліцца за яго душу вельмі доўга. Калі памірае бедны, за трунoй ідзе некалькі чалавек, усё адбываецца вельмі ціха. Хрыстос быў таксама бедны і вучыў сваіх вучняў шанаваць аднолькава ўсіх людзей — бедных і багатых.

* * *

6 верасня журналіст Беластоцкага тэлебачання ў інфармацыйнай праграме заявіў: „Odbyło się poświęcenie samochodów dla MPK przez księdza katolickiego i popa z parafii prawosławnej...”. Калі б сказаў: „odbyło się poświęcenie samochodów przez katolickiego klechę i prawosławnego popa”, можна было б яшчэ гэта неяк апраўдаць яго светапогля-дам ці палітычнымі сімпатыямі. Але чаму дзяржаўнае тэлебачанне прыніжае толькі праваслаўных святароў?

**Дзядзька Захар**

# Адпачынак у Старыне

У днях 28.08—10.09 г.г. Асяродак адпачынку ў Старыне гасціў 22 дзяцей ва ўзросце ад 8-мі да 15-ці гадоў з Бельска-Падляшскага, Супраслі і Беластока. Адпачынак арганізавала Брацтва праваслаўнай моладзі з прыхода св. Міхаіла ў Бельску. Дзеці карысталіся веласіпедамі асяродка, ездзячы на экскурсіі па наваколлі. Штодзень бывалі на возерах у Бахматах і Тапіле, а вечарамі гулялі на дыскатэках ля вогнішча. Госцем маладых братчыкаў быў вядомы журналіст Дарафей Фіёнік. Пабывалі дзеці і на дзяржаўнай мяжы, дзе пазнаёміліся з працаю пагранічнікаў. Апекаваліся дзецьмі Альжбета Юрчук, Кася Анышка, Эдыта Трафімюк і Павел Тэраховіч.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Салодкі Гэнік

Ніхто ў вёсцы і не падумаў, што ў Гэніка ёсць каханка. Быў ён добры, чуллівы для свае жонкі і дзяцей. Гаспадарку мелі невялікую, дык прыходзілася яму падзарабляць у горадзе. Дадому прыязджаў у час. Не біў лындаў і дома, адразу пасля работы дапамагаў жонцы. Сваю шлюбную называў Даначкай і Данулькай, сваім сонейкам, а Данка мужа — салодкім Гэнюсем.

Суседкі зайздросцілі Данцы такога мужа. Ніхто не бачыў яго таксама п'яным. Нават у жартах не сказаў, што цікавіць яго іншыя жанчыны.

Калі найстарэйшы сын Гэніка і Данкі кончыў пачатковую школу, а дачка перайшла ў пяты клас, бацька пасмутнеў. Быццам і дапамагаў жонцы, як і раней, і не скупіўся на мілыя словы, але ўсмешка была ўжо не тая. Пыталіся людзі, што з ім такое, дык адказваў, што кепска сябе адчувае, ды да дохтара не пойдзе, бо яны заўсёды знойдуць хваробу якую захочуць. Усё ж Данка пераконавала мужа, што да лекара выбрацца трэба.

Праз тыдзень ад апошняе Данчынай размовы з мужам пра ягоную нямоглась на вуліцы паказалася маладая цяжарная жанчына. Гэнік з жонкай якраз рыхтавалі агарод да зімы.

— Гэню! — радасна крыкнула жанчына. — Я прыехала па цябе! Кідай гэту старую балбатуху, едзем!

— Што такое?! — не сваім голасам заенчыла Данка. — Якая я вам балбатуха? То гэта так? Вось і прыстроіў дзеўцы жывот... А ты — маладая і дурная! Чаго было са старым лезці ў пасцель?!

— Не кажыце такога! Ён такі добры, чуллівы, а вы яго не разумееце. Я яго кахаю. Усё наракаў на вас, што вы — злосная старая балбатуха, жыць яму не даяце. І вы ж даўно ўжо з ім і не спіце...

Данка рашыла выгнаць свайго Гэніка з хаты. Ледзь свекры іх паладзілі. Старыя бацькі прысягнулі, што нават самі будуць плаціць аліменты на няшлюбнага ўнука, абы толькі Данка іхняга сына не кідала, бо без яе зусім ён прападзе...

**Аўрора**

# Татарка

У сувязі з 600-годдзем пасялення татараў на нашай зямлі прыйшла мне думка, каб напісаць пра два капцы, якія знаходзяцца ў лесе каля вёскі Бялкі, што ў гміне Нарва. Праўдападобна былі яны насыпаны на месцы пахавання татарскіх воінаў.

На адным капцы расла тоўстая прыгожая сасна, якую называлі татаркай. Гаспадар на сваёй цераспалосіцы зрэзаў тую сасну. Іншая легенда гаворыць, што падчас вайны татары закапалі дзевяць бочак золата, якога не маглі вывезці і насыпалі два капцы-курганы, каб ведаць, дзе скарб знаходзіцца.

Невялікія гэты капцы, але варта, каб археолагі пачалі іх даследаваць. Наша беластоцкая зямля хавае ў сабе многа таямніц. Курганы знаходзяцца на прыватнай тэрыторыі і археолагам трэба было б дагаварыцца з гаспадарамі і як мага хутчэй пачаць раскопкі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Здымкі Палесся

У Мінску адкрылі фотавыстаўку „Палессе, якога не знаем”. Не ўдалося аднак паказаць усіх здымкаў, бо беларускія ўлады ацэнзуравалі выстаўку. Планавалася паказаць на ёй чорна-белыя фатаграфіі даваеннага Палесся выкананыя этнографам і сацыёлагам Юзэфам Абрэмбскім ды сучасныя каляровыя здымкі выкананыя студэнтамі Варшаўскага універсітэта.

Раней выстаўка дэманстравалася ў Брэсце, Кобрыне і Пінску; толькі ў першым з названых гарадоў яна была паказана поўнасцю. У Кобрыне, у выніку захадаў абураных ветэранаў працы, выстаўка была закрыта, а ў Пінску былі зняты ўсе сучасныя здымкі. Тое ж самае зрабілі і ў Мінску, адводзячы нададатак заміж абяцаных дзвюх толькі адну экспазіцыйную залу.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Парнасік

### Якія мы людзі

Якія мы людзі,
Усім трэба знаці,
Мы кожнаму ўступім,
Каб нас не чапаці.
Нам хочацца вельмі
З усімі жыць у згодзе
Ды стаці прыкладным
У свеце народам.
Каб людзі пазналі
Пра нашыя ласкі,
Мы іх абдаруем
Хлебам і каўбаскай.
Калі нехта прыйдзе
Да нашае хаты,
Ён ветліва будзе
Заўсёды прыняты.
Яго прывітаем
Мы хлебам і соллю
Напоім жа чыстай
З крыніцы вадою.
Тады ён спазнае
Вялікае ласкі,
Пад'есць разам з намі
Вясковай каўбаскі.
Нам усё дарагое
Што мы тут стварылі.
І знайце вы, людцы,
Не будзем скупыя.

Мікалай Лук'янюк

### Дарагія госці

Дубічы-Царкоўныя наведалі дарагія госці
З варшаўскай сталічнай *валосці*:
Прэзідэнт Квасьнеўскі — галава дзяржавы,
Чалавек кемлівы, добры і бравы.
А таксама прэм'ер Цімашэвіч Уладзімір,
Які нясе пашану і мір.
З імі прыехала дзяржаўная світа;
Беларусам дарога ўсюды адкрыта.
Сустрэча адбылася на Бахматах, ля плаціны:
Чароўны куток, лясок і даліна.
На дарагіх гасцей чакаў натоўп людзей
І гэты дзень для многіх быў як *чарадзей*!
Госці з усімі сардэчна віталіся,
Жартавалі, смяяліся...
Хлебам і соллю іх прынялі традыцыйна,
Усё адбылося спакойна, сардэчна і мірна.
Уступнае слова сказаў войт Паўлоўскі Анатоль,
Які з візітам гасцей адыграў найважнейшую *роль* —
Бо гэта яго і Гміннай рады ініцыятыва — *прыездка*,
Якая дакаціла да нашых вушэй як найлепшая вестка.
Пасля госці і гмінныя ўлады пайшлі на размовы,
Дзе гучэлі пражэнні, абяцанні і прыемныя словы.
Размаўлялі каля паўгадзіны; людзі чакалі,
Усе навокал з напружаннем поспехаў жадалі.
Пасля госці далі кароткі аналіз:
За нашу гасціннасць каб мы не падалі ўніз.
Прэзідэнт усім нам дзякаваў, жадаў поспехаў адкрыта,
Праўдзіва, без бар'ер і без міфаў.
Пасля госці рушылі ў далейшае падарожжа;
Дапамажы ім мудра правіць дзяржавай, Магутны Божа.
Яшчэ ў Дубічах не быў ні цар, ні кароль — чытач павер!
Толькі прэзідэнт наведаў у жніўні цяпер.

Мікалай Панфілюк

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. Жан, французскі акцёр (1904—76), 4. Уільям, ірландскі матэматык (1805—65), 6. незасеянае поле, 7. Серж, французскі балетмайстар (1905—86), 9. Жан, французскі фізік і астраном (1774—1862), 11. Мікалай, савецкі лётчык, герой 2-й сусветнай вайны (1907—41), 12. сахарыйскае племя (мн. лік), 13. бельгійскі курорт, 15. пасінелы кровападцёк, 17. жыхар Тэль-Авіва, 18. Сяргей, расейска-амерыканскі дырыжор (1874—1951), 19. Тансу, турэцкая палітык (нар. у 1946 г.).

**Вертыкальна:** 1. сталіца Грузіі, 2. жартаўлівыя адносіны, 3. правіцыя Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, 4. хворы гіпатанічнай хваробай, 5. жонка Эхнатона, 6. Леантына, амерыканская спявачка (нар. у 1927 г.), 8. гучны смех, 9. мужчынскі голас, 10. Тэо, швейцарскі мастак (1904—68), 14. заканамернасць, 16. травяністая расліна з мечападобнымі лістамі, 17. выканаўца тэатральнай ролі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 32 нумара**

**Гарызантальна:** кабарэ, Малала, Левінэ, ружа, смак, браняносец, злак, цэмя, павага, карова, гарбуз.

**Вертыкальна:** Кастру, рэле, Манэ, лайдак, Вільянуэва, жабрак, смецце, злучка, мянтуз, пава, гага.

# Вер — не вер

Астронку! Снілася мне, што я знаходжуся ў кватэры сваякоў. Раптам абвальваецца сцяна, і пачынае разам з мурам падаць іхняе малое дзіця (у рэчаіснасці яно яшчэ не нарадзілася). Я кладуся на тую развaленую сцяну і лаўлю дзіця, выцягваю яго і сама вылажу.

**Мірка**

Астроне, дарагі! Пэўна, ужо мне хутка давядзецца развітацца з белым светам, бо вось бачыла я такі сон.

Званю я сваёй маці. Яна даўно памерла, я тады была 18-гадовай дзяўчынай, а цяпер мне ўжо за семдзесят. У трубцы не чую голасу маці, адно музыка, спевы. Я кажу: „Мама, зрабі цішэй гэтую музыку, вельмі гучная яна!"

І далей сніцца, што я ўзяла шнурок ды зачапіла яго паміж блёкамі. Павесіла на ім пасціраную бялізну. І тут жа шнурок парваўся і гэтая бялізна паляцела на зямлю.

**Кацярына**

Кацярына! Твой сон гаворыць аб нейкай крыўдзе, непрыемнасцях. І тое, што ты звaніла сваёй маці-нябожчыцы, і тое, што шнурок з бялізнай парваўся і бялізна паляцела на зямлю (і, пэўна, там яна забрудзілася) — усё гэта гаворыць за тое. Магчыма, ты спадзявалася нейкіх грошай (вешала бялізну), але з гэтага нічога не выйдзе (шнурок парваўся).

Мірка! Калі сняцца сцены, наогул абазначае гэта, што ёсць нейкія перашкоды ў тваіх справах. Калі сцяна развалілася, ты ўсё ж з-пад яе вылезла ды яшчэ выратавала тое дзіця. Мо ўсё абыдзецца.

Ага, яшчэ сон можа прадвяшчаць, што будуць нейкія праблемы з тым ненароджаным дзіцём тваіх знаёмых.

**Астрон**

# Файныя кандыдаты

Кандыдат у дэпутаты павінен мець чым пахваліцца. Калі не мае чым, то хоць выглядам. А, можа, перш за ўсё ім, калі праграмы партый і згуртаванняў амаль аднолькавыя. Бо ўсе хочуць, каб **было лепш**, калі ўжо не ёсць **добра**. Выбаршчык, а асабліва той „слабейшага" полу, узіраецца, як кандыдат прэзентуецца: якая ў яго прычоска, ці вусік ёсць харошы, якая ўсмешка, ці добра адпрасаваны касцюм. І які ў таго спадара тэмбр голасу, ці гаворыцца яму гладка, без запінання. І ці глядзіць пан сенатар ці пасол у вочы слухачу (у камеру ці ў фотаапарат). Або хоць ці мае якую сімпатычную адмеціну, крышынку натуральнасці. Таму вось у апытаннях адносна сімпатыі грамадзян першынство маюць Уладзімеж Цімашэвіч, Яцэк Курань, а асабліва Рышард Бугай, да якога сімпатыю адчуваюць людзі незалежна ад сваіх палітычных меркаванняў. Аляксандр Квасьнеўскі, якому французскі стыліст параіў блакітны колер кашулі і фасон пінжака, сваім мілавідным тварам (які быў у той час яшчэ больш прыемны, пакуль Квасьнеўскі не набраў традыцыйнай прэзідэнцкай вагі) і свабодай маўлення быў да спадобы некаторым людзям, ячшэ не ўпэўненым, на каго аддаць свой голас.

Калі глядзець на беларусаў, якія прымалі і прымаюць удзел у выбарчых гонках, то ніводнаму з іх нічога не бракуе. Яны ўсе спраўныя хлопцы, незалежна ад узросту. Я сам чуў, як адзін чалавек, стоячы перад слупам, аблепленым выбарчымі плакатамі, заўважыў сярод усіх саноўных абліччаў са шчырымі, добрымі вачамі, якія прасілі даверыць ім нашу будучыню, партрэт Жэніка Вапы і пракаментаваў: *Jaki ładny chłopak*. Ну, праўда, дакінуў: *Szkoda, że z Unii Pracy, ja muszę na naszych...* (гэта не быў беларус). Сярод беларусаў-славянаў мне па іміджу падабаецца, напрыклад, Ярак Матвяюк, які і прыгожы, і малады, і вучоны, і веруючы ў Хрыста. На здымках і за трыбунай добра прэзентуецца Сяргей Плева, асабліва на ім добра ляжыць цёмны касцюм. Частка выбаршчыкаў, ужо ў дзень галасавання, перад урнай, успомніць, што, хоць рэдка, але добра бачыўся за сеймавай трыбунай і Генік Чыквін, — і вопыт ён мае, і ўсе закуткі на Вейскай яму вядомы. І Янка Сычэўскі не горш выглядаў бы, бо з прэзенцыі даходзіць у яго яшчэ і пэўная саноўнасць падуладная ўзросту, бо з цягам часу ён усё больш статны і красамоўны. Шкада, што ў сенатары не прайшоў Ян Чыквін (а назбіраў быў больш за трыццаць тысяч галасоў!). Сенатар быў бы ён відны, як кажуць у нас: чалавек на месцы. А найлепшым з усіх быў бы сенатарам, па-мойму, Антось Мірановіч, бо і відны, і харошы, і малады, і вучоны, і праваслаўны.

„Калі сам сябе не пахваліш, — кажа мой знаёмы кіеўскі яўрэй, — то ўвесь дзень ходзіш як аплёваны". Але ж няма выйсця, тут пахваліцца трэба, каб цябе заўважылі, і на ўсіх спісках цябе толькі знайшлі! А мне, старому, найбольш спадабалася, сярод усіх пералікаў званняў, прафесіяў, хобі, праграм дзеля аздараўлення ўсяго і ўсіх — паведамленне Сяргея Плевы. Вось, ведаеце, у яго ёсць пяцёра ўнучанят! Гэта ёсць дасягненне! Каб кожны беларус так стараўся! А як добра было б, калі б выхаваў сваіх патомкаў на свядомых выбаршчыкаў і не менш свядомых абраннікаў!..

**Вандал Арлянскі**

# Komunikat

Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Białymstoku zwraca się z uprzejmą prośbą o korespondencyjne zgłaszanie się osób, które są w stanie udzielić bliższych informacji o przyczynach i przebiegu zamordowania przez Niemców 46 osób w Niezbodziczach, gm. Jałówka w dniu 12 sierpnia 1942 r. Szczególnie zależy nam na ustaleniu imion i nazwisk, a także bliższych danych ofiar zbrodni. Dotyczy to rodzin Bartoszów, Bożków, Zoszczyków, Łoskatych, Turaków, Haładurdów, a także Żydów Chroimów, którzy zamieszkiwali w tej wsi.

Informacje i materiały prosimy nadsyłać na adres Okręgowa Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu, 19—950 Białystok, ul. Mickiewicza 5.

**(—) Waldemar Monkiewicz**


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1998 r. upływa 5 grudnia 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na I kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

## Самаход

Самаход, нячыста сіла,
Дзе вязеш мяне, халера!
Цераз роў на поле трапіў,
Тут гарэлка вінавата.
Ён у краме так напіўся,
У машыну ледзь уваліўся.
Куды ехаў, сам не знае,
А дарога тут крутая.
Раз улева, раз управа,
Трах, і скончаная справа!
Едзеш — перастань ты піці,
Перастань ты выдурняцца!
Будуць ўсе з цябе смяяцца,
Што гарэлкай так надуўся,
Аж у бальніцы апынуўся.
Жонка стогне, дзеці плачуць,
Што такі ў іх лёс сабачы;
Бацька ўжо правоў не мае,
Усё ж гарэлку папівае.

## Пад'ехаў

Паехаў Яська, паехаў з дому,
Паехаў кудысьці баляваць,
Зайшоў у краму ў Трасцянцы,
Пачаў там піва папіваць.
Калі ўжо піва нажлукціўся
І стала кружыцца ў галаве,
Падумаў як дамоў вярнуцца,
Ці самаход яго завязе.
Ён павярнуў сваю машыну,
Прыцiснуў газ і паімчаў,
А на ўзгорку каля рэчкі
Ужо паліцыянт яго чакаў.
Яго спынілі і „лейцы" забралі
На рукі кайданы наклалі...
Яська стаў прасіцца, хабар
хацеў даваці,
Каб не завезлі ў выцвярэзнік спаці.

**Мікалай Лук'янюк**

## Думкі ў час мігрэні

* Адно ёсць пэўнае, што нічога няма пэўнага.

* Свае правіны хутка забываем, чужыя памятаем да смерці.

* Які ж феномен жанчына: дае і ёй не ўбывае, а часам нават прыбывае.

* Вучоныя даказваюць, што чалавек выкарыстоўвае патэнцыял свайго мозгу толькі ў некалькіх працэнтах. На жаль, гэта прыкметна!

* Выбары ў парламент — элегантны бег да карыта.

**Пётр Байко**

**У кіпцюрах цацерука**

## Выбарчы тыдзень

**Панядзелак**

Сёння ўпершыню пачуў я, што сёння добрае, а заўтра будзе куды яшчэ лепшае.

Чатыры паўлітроўкі на дзве галавы — ніякае там марнатраўства. Добра, калі добрае падмацуе чалавек чымсьці добрым.

**Аўторак**

Калі ў панядзелак было добрае сёння, а заўтра прадбачвалася лепшае, ці тады сёння — гэта ўсё яшчэ добрае сёння, ці ўжо прадбачанае лепшае заўтра?

**Серада**

Зайшоў Ганс. Гадоў пяць мінае як ажаніўся з маёй суседкай. Дзень да шлюбу хрысцілі Ганса ў нашай царкве, а мне нат выпаў гонар кумаваць на гэтай урачыстасці. Як не глядзі, Ганс — праваслаўны. Хочаш не хочаш, а нацыянальная ён між намі меншасць. Усёткі славянін з Ганса няпэўны. І думай цяпер хросны бацька: за каго галасаваць Гансу?

**Чацвер**

Не зайшоў Уладэк. Абразіўся. Учора праваслаўнаму паляку, славяніну Уладэку прапанаваў я прагаласаваць за сваіх. Паляк, як нацыянальная меншасць у Польшчы, гэта не гучыць горда і Уладэк абразіўся.

**Пятніца**

Я — адзін з вас. Так адрэкамендаваў сябе кандыдат, а хлопцы ў перадыбарчай гарачцы халяснулі плакат на бетонным плоце, акаляючым мясцовую турму. Правакацыя гэта ці веданне жыцця?

**Субота**

Абяцаюць ліквідаваць інфляцыю, беспрацоўе, карупцыю і ўсе другія пачвары. Хочацца жыць.

На плакаце побач слоў: „Цяпер Польшча" нехта дапісаў — „А раней Бангладэш".

**Нядзеля**

Кандыдат — гаспадар на пяцідзесяці гектарах абяцае высокую цану на жыта. Кандыдат без гектараў будзе змагацца за танны хлеб. Іду галасаваць на жыда, які добра купіць ад першага з кандыдатаў, танна прадасць другому, ды сам яшчэ някепска заробіць. Па дарозе дзякую ўсім напатканым партрэтам за тое, што магу пісаць па-беларуску.

**Міхась Андрасюк**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чаму ў Рыме столькі касцёлаў?

— Каб пешаходы мелі дзе памаліцца перад тым, як прайсці на другі бок вуліцы.

* * *

Дзве маладыя турысткі адбіліся ад групы ды заблудзілі. Апынуліся на вялікім лузе. Раптам знекуль выскачыў раз'яраны бычок дый скіраваўся проста на дзяўчат. Кінуліся яны наўцёкі, аднак бычок набліжаўся да іх з вялікай хуткасцю. Адна з іх, зняможаная, упала на зямлю ды закрычала з адчаем:

— Лепей ужо мець цялятка, чымсьці памерці ад інфаркту!

* * *

Гутараць два сябры:

— Падумай сабе: учора вечарам, крыху раней чым заўсёды, вяртаюся дадому і застаю жонку ў ложку з амерыканскім афіцэрам...

— Ну і што ты яму сказаў?

— А што ж меў сказаць? Я ж не ўмею па-англійску.

— Дык запішыся на курсы.

— Запісаўся; і на французскую мову таксама.

* * *

— Не ведаеш, што дзеецца з нашым сябрам Мікалаем?

— Ведаю: прагуляў пяцьсот мільёнаў і цяпер сядзіць.

— А дзе?

— На Канарскіх астравах.

* * *

Траіх хлопчыкаў хваляцца магчымасцямі сваіх бацькоў:

— Мой напіша верш — некалькі кароткіх радочкаў на паперы — і атрымлівае за гэта дзесяць фунтаў, — кажа першы.

— Мой напіша песню — паставіць некалькі кропак на нотнай паперы — і бярэ за гэта дваццаць пяць фунтаў, — кажа другі.

— Гэта дробязь, — кажа трэці. — Мой на кусочку паперы напіша прапаведзь, увойдзе на амбон, прачытае яе, і чатырох мужчын мусяць збіраць грошы!

* * *

Гамоняць дзве суседкі:

— Пазыч мне свой пыласос.

— Ахвотна! Толькі з тою ўмовай, што скарыстаешся ім у мяне дома.

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка! Ніколі не думаў, што маё жыццё будзе настолькі небанальным, я б сказаў нават, складаным.

Мяне бацькі выхоўвалі па-Божаму, у духу рэлігійнасці. Для іх гэта абазначала вернасць праваслаўнай рэлігіі, і толькі ёй. Я ад дзяцінства ведаў, што трэба сябраваць з праваслаўнымі дзецьмі, а ў маладосці мне ўсё паўтаралі, што маю разглядацца між сваіх дзяўчат.

Ну, скажы, Сэрцайка, ці ж будзеш у дзяўчыны, скажам на дыскатэцы, пытацца адразу, якой яна веры? А ўсіх жа ведаць немагчыма нават у нашым невялічкім горадзе.

І вось аднойчы я быў на прыватцы ў сябра, а там прыглянулася мне харошая чарнявая дзяўчынка. Ужо тады я адчуваў, што хачу з ёй хадзіць. Ад першага вечара.

Праз некалькі нашых сустрэч я ўжо ведаў, што яна — каталічка. Я быў упэўнены, што бацькі будуць супроць нашай дружбы, але што я мог зрабіць, калі адчуваў, што кахаю яе, як ніколі нікога.

Мы ўжо хадзілі з гэтай дзяўчынай амаль паўгода, калі яна першая пачала гаварыць пра шлюб. Я, дальбог, перапужаўся, што скажуць бацькі.

І сапраўды, нездарма. Яны пра шлюб нават слухаць не хацелі. Тады мая дзяўчына выехала з горада. Бацькі пачалі пытацца ва ўсіх знаёмых, ці няма для мяне праваслаўнай дзяўчыны. Дзяўчаты былі і мяне нават знаёмілі з імі, але ніводная мне не падабалася так, як тая. Што будзе? — бедавалі бацькі. А я не хацеў нават думаць пра нікога іншага. Аднак жа я нават не ведаў, куды падалася мая каханая.

Нарэшце я дачакаўся ад яе вестачкі. Пісала мне, што ўладкавалася на працу, наняла кватэру і неяк жыве. Пісьмо было нават без адраса. Дзяўчына прасіла не пісаць ёй, яна сама напіша.

А як жа, напісала і другое пісьмо. Напісала, што выходзіць замуж, бо знайшла чалавека, які пакахаў яе так моцна, што для яго няважна нічога, апрача пачуццяў. Для яе ён скочыў бы ў агонь.

Больш лістоў не было. Я памалу пачынаў забывацца пра ўсю гэту гісторыю, калі на парозе нашай хаты паявілася яна: мая дзяўчына з двухмесячным дзіцём на руках і дарожнай сумкай у руцэ.

Я аслупянеў: а гэта што? Калі хочаш, сказала яна, прымай, калі не — пайду кудысьці пераначаваць. Не магла я жыць з чужым чалавекам. Не бацька ён дзіцяці, хаця шчыра згадзіўся ім быць. Ты — яго бацька, рабі, як хочаш. Толькі цябе я кахаю, хаця найгоршы час — час цяжарнасці я была без цябе, а апекаваўся мною хтосьці іншы.

Я, вядома, узяў яе і дзіця дахаты. Бацькі цяпер сказалі: не бадзяцца ж тваім дзецям па свеце! Хутка яна атрымала цывільны развод, і мы павянчаліся па-праваслаўнаму, у царкве.

Цяпер мы ўсе шчаслівыя. У нас ужо трое дзетак, а бацькі лепшай нявесткі і не хацелі б. Разумееш?

**Багдан**

Багдан! Дзякуй Богу, што ўсё добра скончылася. Відаць, дзяўчына, якая не хацела цябе сілком жаніць на сабе, пасля зразумела, што без цябе жыць не зможа.

Мо гэта і добра, што не чаплялася да цябе, не хацела шантажаваць цябе сваёй цяжарнасцю, ласіцца да тваіх бацькоў. Яна проста выехала з гэтага горада, каб не быць ні аб'ектам кпін, падсмейвання, ні аб'ектам літасці. Выехала і нарадзіла дзіця, а чалавеку, відаць, адразу прызналася, што цяжарная ад іншага!

Сумна ёй было адной, вось і выйшла замуж. Ды яшчэ каб дзіця пры бацьку радзілася. Аднак жа жыць з нялюбым — справа не такая простая. З маленькім дзіцём адразу падалася да цябе, туды, дзе яе месца. Добра, што вы ўсе яе зразумелі.

Думаю, што ў вашым узросце пачуцці, а не веравызнанне былі найважнейшыя. І, бачыш, маеш добрую сям'ю.

**Сэрцайка**